КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 10 (331) ◂ 15 сакавіка ◂ 2013 г.
www.novychas.org

# Новы Час



**ЯКОГА КОЛЕРУ ГРЫЛА?**

Стар. 13

**ДЗЯРЖАВА ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ: ІДЭАЛЫ БНР І СУЧАСНАСЦЬ**

Напярэдадні Дня Волі арганізатары святкавання праводзяць шэраг круглых сталоў у рэдакцыях незалежных газет. Першы такі круглы стол адбыўся ў рэдакцыі НЧ

Стар. 4

**ВАЛЮТНЫ КРЫЗІС ПА-ЎЗБЕКСКУ**

Тое, што адбываецца ва Узбекістане пасля забароны продажу наяўнай валюты, вельмі нагадвае беларускія будні 2011 года

Стар. 12

**ТРАГЕДЫЯ БЕЛАРУСКАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ**

Стар. 14

ISSN 2218-2144
9 772218 214401 10010

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**БАРАЦЬБА З ЭНТРАПІЯЙ ПА-БЕЛАРУСКУ**

Артыкул Сяргея Нікалюка з цыклу «Азбука паліталогіі»

▸ **З НАГОДЫ**

# ХТО БУДЗЕ СПОНСАРАМ ПАСЯЎНОЙ?

*Сяргей ПУЛЬША*




**Урад Беларусі ўрэзаў свае паўнамоцтвы. Змяніўся рэгламент Савета міністраў. Цяпер усе праекты пастаноў Саўміна, якія датычацца пытанняў крэдытавання, аказання дзяржпадтрымкі, выдачы гарантый або кампенсацыі часткі працэнтаў за карыстанне крэдытам, павінны быць узгоднены з Нацбанкам.**

Такім чынам, паўнамоцтвы прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Мясніковіча ў галіне фінансаў значна звузіліся. Нават такую дробязь, як пытанні накіравання ў замежныя камандзіроўкі, беларускі прэм'ер цяпер не зможа вырашыць самастойна. Згодна з новым рэгламентам, праекты пастановы аб камандзіроўках таксама павінны мець дадатковыя візы. У прыватнасці, быць узгоднены з Міністэрствам юстыцыі.

Эканамісты аднагалосна і «на ўра» ўспрынялі такія змены ў паўнамоцтвах урада. З іх пункту гледжання, Нацбанк, які зараз апынуўся ў ролі «кантралюючага» ўрад, значна лепш разумее эканамічныя працэсы. Маўляў, Нацбанк бярэ пад кантроль дзейнасць Саўміна, каб кантраляваць эмісію, каб у эканоміцы не з'яўлялася «лішніх» безнаяўных крэдытных грошай.

Менавіта тое, што ў мінулым годзе план па крэдытаванні прадпрыемстваў быў перавышаны амаль у два разы, з'явілася адной з прычын інфляцыі, якую ледзьледзь удалося паклаусці ў прагнозныя параметры. У гэтым жа годзе ўлады маюць намер рэзка знізіць інфляцыю ў параўнанні з леташняй — з 22% да 12% у год. Таму і расходаванне крэдытаў ставіцца пад больш жорсткі кантроль з боку Нацбанку.

Але ў гэтым ёсць і адзін інтрыгуючы момант. Змяняць рэгламент Саўміну можа толькі сам Саўмін. Чаму ж ён адмовіўся ад такога вялікага і значнага «куска пірага», як размеркаванне крэдытных грошай? Значыць, хтосьці прыняў рашэнне даць больш паўнамоцтваў Нацбанку. А прыняць гэтае рашэнне можа толькі адзін чалавек — Аляксандр Лукашэнка.

Выйграў ці прайграў ад гэтага ўрад, які Лукашэнка пагражаў звольніць за «паўтарэнне 2012 года»? Зараз Саўмін не будзе так адназначна адказны ні за эканоміку, ні за мадэрнізацыю, ні за выкананне прагнозных паказчыкаў. Ёсць жалезная адгаворка: «Мы хацелі, як лепш, але Нацбанк грошай не даў». А без грошай што зробіш? І, такім чынам, у прэзідэнта аказваюцца два «хлопчыкі для біцця» — не толькі ўрад, але і Нацбанк.

Эканамістам лёгка казаць, што Нацбанк будзе праводзіць цвярозую грашова-крэдытную палітыку. Але фармальна незалежны Нацбанк дэ-факта ўсё ж падпарадкаваны прэзідэнту. А з такім падпарадкаваннем вельмі цяжка разлічваць на нейкую цвярозасць.

Першыя крокі Нацбанку пасля атрымання «шырокіх паўнамоцтваў» па кантролі за крэдытаваннем якраз збілі аптымізм з экспертаў. 12 сакавіка Нацбанк прыняў рашэнне аб зніжэнні стаўкі рэфінансавання, і з 13 сакавіка стаўка панізілася на 1,5% — да 28,5% гадавых.

«Фактычнае становішча, якое склалася ў лютым бягучага года, і прагназуемае далейшае запавольненне інфляцыйных працэсаў дае падставы для паступовага зніжэння намінальнага значэння стаўкі рэфінансавання з захаваннем яе станоўчага рэальнага ўзроўню», — гэты каментар Нацбанка прагучаў як здзек з «аптымістаў». Усе ведаюць, што ўзровень інфляцыі ў студзені-лютым склаў 4,3%, то бок больш за траціну ад запланаванага гадавога паказчыка. І гэта «далейшае запаволенне інфляцыйных працэсаў»?

Зніжэнне стаўкі рэфінансавання значыць, што зменшацца працэнты па крэдытах, яны патаннеюць, браць іх стане больш выгадна, у эканоміку зноў выплеснуцца тыя ж крэдытныя грошы, што прывядзе да інфляцыі. Але ў гэтым урад ужо не вінаваты.

Але ж найперш павінна радаваць урад і не радаваць Нацбанк тое, што яны будуць аднолькава адказнымі за маштабную кампанію па крэдытаванні (часцяком, без звароту крэдытаў) самых адсталых прадпрыемстваў у краіне. Гэтая кампанія праводзіцца штогод і называецца «бітва за ўраджай». Традыцыйна ў пасяўную і уборачную, але значна больш — у пасяўную, улада закопвае грошы ў зямлю, выдаючы направа і налева крэдыты і сродкі сельскай гаспадарцы. А потым гэтыя крэдыты проста спісваюцца ў нябыт.

Аляксандр Лукашэнка, канешне, заявіў, што спісання крэдытаў сельскагаспадарчым арганізацыям не будзе. «Я лічу, што ў сельскай гаспадарцы яшчэ маса рэзерваў. І галоўнае — гэта кадры: кіраўнікі, спецыялісты, сяляне. Там, дзе ёсць жаданне працаваць, дзе нацэленасць на працу, там ёсць вынік. Там, дзе няма нармальнага кіраўніцтва, спецыялістаў, там і людзі працуюць слаба. Ты ім колькі ні давай грошай, усё марна», — адзначыў ён 11 сакавіка, прымаючы з дакладам намесніка прэм'ер-міністра Міхаіла Русага і міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Леаніда Зайца.

Але ўсе звыклі да таго, што Лукашэнка падобныя прамовы паўтарае кожны год ужо больш за дзесяцігоддзе. І за гэты час нічога не змянілася. Пра неэфектыўнасць і стратнасць беларускай сельскай гаспадаркі не раз казалі і розныя аўтарытэтныя міжнародныя фінансава-эканамічныя інстытуты. Аднак беларуская дзяржава з упартасцю маньяка кожны год толькі павялічвала субсідыі аграпрамысловаму комплексу.

Гэтым годам на пасяўную павінна быць патрачана 13,9 трыльёна рублёў, альбо 1,59 мільярды долараў. Адкуль бедная Беларусь возьме такія грошы без уключэння друкавальнага станка?

Адзінае шчасце для ўрада — ён зараз не будзе адказны за закопванне грошай. Альбо будзе вінаваты не адзін: падзеліць віну з Нацбанкам.

АДМОВА

# ПІКЕТА НА ДЗЕНЬ КАНСТЫТУЦЫІ НЕ БУДЗЕ

Марат ГАРАВЫ

**Мінскі гарвыканкам адмовіў актывістам Грамадзянскай ініцыятывы супраць беззаконня ў судах і пракуратуры ў правядзенні 15 сакавіка ў цэнтры сталіцы пікетавання з нагоды Дня Канстытуцыі.**

У пісьмовай адмове, падпісанай намеснікам старшыні Мінгарвыканкама Ігарам Карпенкам, адзначаецца, што заява на пікетаванне «не адпавядае патрабаванням артыкула 9 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь». «Дадаткова інфармуем, што вызначаныя ў Вашай заяве меры па забеспячэнні грамадскага парадку і бяспекі пры правядзенні пікету не з'яўляюцца дастатковымі для арганізацыі і правядзення дадзенага масавага мерапрыемства», — гаворыцца ў адмове.

Нагадаем, што ў акцыі планаваўся ўдзел не болей за 20 актывістаў ініцыятывы з усіх рэгіёнаў Беларусі, якія вядуць звычайны лад жыцця і карыстаюцца павагай у грамадстве, прычым большасць з іх — жанчыны сталага ўзросту.

Падчас пікетавання меркавалася выкарыстанне плакатаў наступнага зместу: «У Канстытуцыі правы і свабоды на паперы, а нам яны патрэбныя ў жыцці!»; «Забеспячэнне правоў і свабод грамадзян Рэспублікі Беларусь з'яўляецца найвышэйшай мэтай дзяржавы (артыкул 21 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь)» і «Патрабуем ад чыноўніцтва выканання Канстытуцыі краіны!».

У каментары НЧ лідар ініцыятывы юрыстка Тамара Сяргей звярнула ўвагу на тое, што правa на свабоднае выказванне свайго меркавання і правядзенне пікету дадзена артыкуламі 33 і 35 Канстытуцыі краіны і артыкуламі 19 і 21 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах.

«Аднак, на маю думку, дзеянні чыноўнікаў Мінгарвыканкама якраз і сведчаць пра тое, што правы грамадзян, зафіксаваныя ў асноўным законе краіны, існуюць толькі на паперы, але не ў жыцці. І хаця дзяржаўная ўлада ў краіне фармальна падзелена на заканадаўчую, выканаўчую і судовую, на справе адбыўся перакос у бок выканаўчай улады. І ўлады сталіцы нам яшчэ раз гэта прадэманстравалі. Чыноўнікаў Мінгарвыканкама нават не збянтэжыў той факт, што заяўнікі хацелі правесці пікет у Дзень Канстытуцыі дзеля прыцягнення ўвагі грамадства і дзяржавы да асноўнага закону краіны, у якім замацаваныя правы і свабоды грамадзян», — сказала юрыстка.

ПА ЗАКОНУ

# АСТАПОВІЧ СКАРДЗІЦЦА НА ФІЛАРЭТА

Марат ГАРАВЫ

**Старшыня Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч просіць пракуратуру горада Мінска правесці праверку і даць прававую ацэнку дзеянням мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, патрыяршага экзарха Беларусі, які не адказаў на зварот грамадскага аб'яднання.**

У лісце Астаповіча ў пракуратуру паведамляецца, што 24 студзеня таварыства накіравала пісьмовы зварот на імя ўладыкі Філарэта, які на 12 сакавіка не даў адказ грамадскаму аб'яднанню, чым парушыў артыкул 9 Закону Рэспублікі Беларусь «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асобаў». Старшыня таварыства лічыць, што мітрапаліт Філарэт здзейсніў адміністрацыйнае правапарушэнне, прадугледжанае артыкулам 9.13 Кодэксу Рэспублікі Беларусь ад адміністрацыйных правапарушэннях, згодна з якім парушэнне заканадаўства аб зваротах грамадзян і юрыдычных асобаў цягне за сабою накладанне штрафу ў памеры ад 4 да 20 базавых велічынь.

У гэтай сітуацыі Астаповіч просіць пракуратуру прызнаць неправамернымі і ўціскаючымі правы грамадскага аб'яднання на атрыманне інфармацыі, а таксама парушаючымі заканадаўства аб зваротах грамадзян і юрыдычных асобаў дзеянні галавы Беларускага экзархату Рускай праваслаўнай царквы, абавязаць яго прадставіць таварыству адказ на зварот, а таксама скласці пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні ў адносінах да ўладыкі Філарэта.

Каментуючы НЧ свой зварот у пракуратуру, Астаповіч паведаміў, што за апошнія гады грамадскае аб'яднанне неаднаразова звярталася да кіраўніка экзархату з нагоды парушэння заканадаўства аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны некаторымі прыходамі Рускай праваслаўнай царквы на тэрыторыі Беларусі. «Але наш апошні ліст да ўладыкі Філарэта ўтрымліваў не крытыку, а пазітыўную прапанову», — падкрэсліў кіраўнік таварыства.

Ён нагадаў, што з 2011 года дзейнічае новая рэдакцыя закону аб зваротах грамадзян і юрыдычных асобаў, з якой вынікае, што ігнараваць пісьмовыя звароты не могуць ніякія юрыдычныя асобы.

«Сучасная сталічная вуліца Вызвалення ў Ракаўскім прадмесці, на якой знаходзіцца будынак Мінскай епархіі, да Саветаў мела назву Васкрасенская па размяшчэнні на гэтай вуліцы царквы Уваскрашэння Хрыстова (зараз — паміж будынкамі №6 і №8 на вуліцы Вызвалення). Васкрасенская царква мела даўнюю гісторыю, што пацвярджаецца шматлікімі архіўнымі дакументамі і пазначэннем на планах гораду з канца XVIII стагоддзя. У сувязі з тым, што тэрыторыя, дзе месцілася святыня, знаходзіцца ў землекарыстанні экзархату, мы прапанавалі правесці добраўпарадкаванне з пазначэннем на мясцовасці контураў перыметру сцен царквы. Пры гэтым спецыялістамі архітэктурнай секцыі таварыства праведзены аналіз крыніц і бібліяграфіі, на падставе якога лакалізавана месцазнаходжанне Васкрасенскай царквы і зроблена яго прывязка да сучаснай горадабудаўнічай сітуацыі, што дазваляе пазначыць на мясцовасці контуры плану храма. Мы прапанавалі на валанцёрскай аснове распрацаваць навукова-праектную дакументацыю на дадзены від прац. Але праходзіць час, парушаюцца ўсе нарматыўныя тэрміны, а нам не адказваюць. І тады ўзнікае пытанне, чым кіруецца праваслаўная царква ў сваіх узаемаадносінах з навакольным светам: законамі, канонамі ці паняццямі? На маю думку, усе павінны кіравацца законамі», — сказаў Антон Астаповіч.

СПРАВА

# ПОДПІСЫ ЗА МОВУ

**Бабруйскія сябры БХД збіраюць подпісы за пашырэнне ўжывання беларускай мовы ў газеце гарвыканкама «Бабруйскае жыццё».**

У калектыўным звароце, які ў бліжэйшыя часы будзе накіраваны мясцовым чыноўнікам, нагадваецца пра тое, што ад першых дзён існавання гэта газета друкавалася па-беларуску. «Аднак з цягам часу найлепшыя традыцыі газеты былі занядбаныя. Беларуская мова пачала мэтанакіравана выганяцца са старонак выдання. Працэс вынішчэння роднай мовы адбываецца на працягу не аднаго дзесяцігоддзя».

Актывісты звяртаюць увагу на тое, што ў асобных нумарах газеты часам з'яўляецца ўсяго некалькі матэрыялаў на роднай мове, а сайт газеты www.life.bobr.by мае толькі рускамоўную версію.

«Моўнае пытанне для нас вельмі важнае, бо закранае асновы грамадскага ладу. Мы просім, каб не менш за палову артыкулаў у «Бабруйскім жыцці» друкаваліся па-беларуску, — кажа Таісія Кабанчук, бабруйская каардынатарка аргкамітэта БХД. — Канешне, у ідэале хацелася б, каб газета гарвыканкама цалкам была беларускамоўнай, але мы ўсведамляем, што ёсць людзі, якія не ўсё разумеюць. Напрыклад, афіцыйныя звесткі, нейкая спецыфічная інфармацыя магла б друкавацца на рускай мове, усё астатняе — па-беларуску».

Аўтары звароту прапануюць, каб у «Бабруйскім жыцці» з'явілася пастаянная рубрыка, дзе б асвятляліся пытанні беларускай мовы і культуры, каб была нарэшце створаная беларускамоўная версія сайта.

«Пакуль цяжка сказаць, колькі подпісаў дакладна мы сабралі, бо падпісныя лісты яшчэ на руках у нашых актывістаў, але я асабіста ўжо маю больш за 50 аўтографаў. Думаю, у бліжэйшыя пару дзён падаб'ем лічбы і перададзім подпісы ў гарвыканкам», — паведаміла Кабанчук.

Зборшчыкі подпісаў адзначаюць, што бабруйчане вельмі ахвотна падпісваюцца пад зваротам, гэта можа азначаць прыязнае стаўленне гараджан да роднай мовы.

«Бабруйскае жыццё» — не выключэнне. Суцэльная рускамоўнасць пануе ва ўсіх бабруйскіх афіцыйных сродках масавай інфармацыі. Сайты гарвыканкама і райвыканкама зробленыя толькі ў дзвюх версіях — рускамоўнай і англамоўнай. Сайт адміністрацыі Ленінскага раёна і раёнкі «Трыбуна працы» — толькі ў рускамоўнай версіі. Часам тут можна ўбачыць асобныя артыкулы, напісаныя па-беларуску, але засілле рускай мовы ў афіцыйных крыніцах застаецца больш чым відавочным.

**Паводле spring96.org**

ХРОНІКА

# ХВАЛЯ САЛІДАРНАСЦІ — БЕЗ СВЯТАЎ І ВЫХОДНЫХ

Сяргей ПУЛЬША

**Хваля салідарнасці з палітвязнямі, абвешчаная аргкамітэтам па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», паспяхова крочыць па краіне.**

7 сакавіка ў Глыбокім удзельнікі «Хвалі салідарнасці» падпісалі палітвязням больш за паўсотні паштовак. Для акцыі набылі паштоўкі з выявамі глыбоцкіх вуліц, выпушчаныя да Дня беларускага пісьменства. Па словах арганізатара акцыі Змітра Лупача, ён набыў усе паштоўкі, якія былі на цэнтральнай пошце Глыбокага. «Падобныя мерапрыемствы не павінны быць адзінкавымі, — лічыць Зміцер, — мы спадзяемся, што пасля сённяшняй акцыі паміж яе ўдзельнікамі і палітвязнямі ўсталюецца сталая перапіска, каб гэтыя людзі не лічылі сябе пакінутымі».

8 сакавіка «Хваля Салідарнасці» ў чарговы раз прайшлася па Гродзенскай вобласці, на гэты раз акцыі салідарнасці з палітвязнямі актывісты БХД правялі ў Мастах. Інфармацыйныя матэрыялы наконт палітвязняў былі размешчаныя на тумбах і дошках па цэнтральнай вуліцы горада, каля пад'ездаў шматпавярховых дамоў і ў паштовых скрынях.

9 сакавіка марафон прайшоў у Пінску. Мясцовыя актывісты БХД каля Палескага дзяржаўнага ўніверсітэта вывесілі расцяжку «Свабода палітвязням», а ўлёткі з інфармацыяй пра палітзняволеных былі раскіданыя па паштовых скрынях пінчукоў.

У Баранавічах у той жа дзень мясцовыя актывісты БХД збіраліся правесці супольную малітву за палітвязняў на адкрытай пляцоўцы, аднак каля яе іх ужо чакалі міліцыянты і людзі ў цывільным. У сувязі з гэтым актывісты вырашылі памаліцца за палітвязняў у царкве, што стаіць каля запланаванага месца малітвы. Ідучы да царквы, яны заўважылі, як людзі ў цывільным затрымалі двух маладзёнаў, якія не мелі ніякага дачынення да акцыі. Нагадаем, што ў Баранавічах «Хваля салідарнасці» ўжо праходзіла 14 лютага.

10 сакавіка ў Асіповічах распаўсюдзілі па дошках аб'яваў і каля пад'ездаў жылых дамоў улёткі з інфармацыяй пра палітвязняў і заклікамі падтрымаць іх.

11 сакавіка ў Лідзе актывісты БХД распаўсюдзілі па паштовых скрынях гараджан, расклеілі па слупах, дошках аб'яваў і прыпынках улёткі з інфармацыяй пра палітвязняў і заклікам падтрымаць іх.

Інцыдэнт з міліцыяй адбыўся 12 сакавіка ў Гродна. Людзі ў цывільным затрымалі сябра аргкамітэту па стварэнні БХД Сяргея Верамеенку, якраз каля офісу мясцовых хрысціянскіх дэмакратаў, куды ён нёс улёткі для акцыі ў межах «Хвалі Салідарнасці». Да яго падышлі двое ў цывільным, якія, не паказаўшы ніякіх дакументаў, назваліся супрацоўнікамі Ленінскага РАУС і пад пагрозай гвалту змусілі актывіста прайсці з сабой (як пазней высветлілася, імя аднаго з іх — Аляксандр Кілікін).

У РАУС усе ўлёткі пералічылі, пасля чаго, зноў-такі без якіхсьці афіцыйных дазволаў, людзі ў цывільным накіраваліся дадому да Сяргея Верамеенкі, дзе зрабіліператрус у пошуках улётак. Са словаў міліцыянтаў, яму можа пагражаць суд за распаўсюд друкаванай прадукцыі без выходных дадзеных. Але пакуль што аніякіх адміністрацыйных позваў ці позваў у суд актывіст БХД не атрымліваў.

13 сакавіка ўлёткамі накрыла Полацк. У горадзе былі распаўсюджаныя каля 2700 улётак з інфармацыяй пра палітвязняў.

«Хваля салідарнасці» будзе доўжыцца да Дня Волі, 25 сакавіка.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# БЕРАГЧЫ, ДЫК БЕРАГЧЫ!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**«Год беражлівасці», абвешчаны сёлета, значна ўскладніць працу ўсялякім блогерам, якія вышукваюць у Беларусі ўсё дрэннае. Раней зласліўцы маглі папросту зайсці на сайт дзяржзакупак і пабачыць там, прыкладам, аб'яву на куплю аўтамабіля для дзяржарганізацыі за 70–80 тысяч долараў. Альбо зацікавіцца, колькі каштуюць гадзіннікі чальцоў ураду. Зараз гэтаму прыходзіць канец.**




Аляксандр Лукашэнка 12 сакавіка падпісаў указ №119 «Аб упарадкаванні набыцця службовых легкавых аўтамабіляў». «У мэтах рацыянальнага выкарыстання сродкаў, захавання плацежнай дысцыпліны» нормамі ўказа ўстанаўліваюцца абмежаванні на набыццё службовых легкавых аўтамабіляў юрыдычнымі асобамі, якія маюць пратэрмінаваную запазычанасць, а таксама абмежаванні па яго кошце. Кошт службовага легкавога аўтамабіля, набытага дзяржаўнымі органамі, дзяржаўнымі юрыдычнымі асобамі, гаспадарчымі таварыствамі, у статутных фондах якіх больш за 50% акцый знаходзіцца ва ўласнасці дзяржавы або яе адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, а таксама сельскагаспадарчымі арганізацыямі з доляй дзяржавы ў статутным фондзе, не павінна перавышаць суму, эквівалентную 25 тысячам еўра з улікам мытных плацяжоў.

За перавышэнне ўстаноўленага заканадаўствам кошту набытага службовага легкавога аўтамабіля, а таксама за яго набыццё пры наяўнасці пратэрмінаванай запазычанасці прадугледжваецца накладанне на кіраўніка дзяржоргана або юрыдычнай асобы штрафу ў памеры ад 600 да 1 000 базавых велічынь.

> Мінскі метрапалітэн пачынае эканоміць на жэтончыках. Гэта ўстанова рыхтуецца да ўвядзення электроннага праязнога білета

Ці стрымае гэты ўказ пакупнікоў задарагіх аўто? Можа, і не вельмі. За 25 тысяч еўра можна набыць прыймальную машыну эканом-класа, але на большае ўжо не разгонішся. Але што тым, хто «разагнаўся», штраф каля 9 тысяч еўра, калі машыну яны набываюць за 60–70 тысяч? Пэўна, зараз ва ўмовы тэндэра і вартасць машыны будуць адразу закладацца грошы на выплату штрафу. Вось і ўсе справы.

Беражлівасць дасягае ўсіх. І простых, і няпростых грамадзян. Простым абрэзалі павышэнне заробку. Мінімальная заработная плата (МЗП) за люты 2013 года індэксавацца не будзе, бо індэкс спажывецкіх цэн за люты да студзеня гэтага года не перавысіў пяціпрацэнтны парог. Пра гэта паведамілі ў Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны Беларусі.

Так што тым, хто разлічваў на падвышэнне заробку ў сувязі з інфляцыяй, пакуль давядзецца пацярпець. Да тых часоў, пакуль інфляцыя не перавысіць 5%. Не ведаеш, плакаць ці смяяцца з такой арыфметыкі Міністэрства працы.

А мінскі метрапалітэн пачынае эканоміць на жэтончыках. Гэта ўстанова рыхтуецца да ўвядзення электроннага праязнога білета. Як паведаміў журналістам галоўны рэвізор па бяспецы руху КУП «Мінскі метрапалітэн» Аляксандр Салей, цяпер распрацоўваецца сістэма адзінага праязнога білета для наземнага і падземнага транспарту. Ідзе размова аб пераходзе на бескантактную або аналагічную картку для аплаты праезду ў метро.

Плануецца, што гэтая картка будзе шматразовай, і будзе папаўняцца. Так што хутка мы будзем плаціць за праезд у банку — як за мабільную сувязь.

Праўда, тэрміны рэалізацыі праекта Салей не назваў, таксама пакуль не вызначана, як будзе аплачвацца праезд, на які тэрмін будуць выдавацца праязныя. А таксама, напэўна, не разглядаецца пытанне, як у такім выпадку правяраць аплату за праезд. Надаць кантралёрам адмысловыя электронныя лічыльнікі? Дык каштаваць яны будуць больш, чым уся старая сістэма аплаты разам узятая.

«Першыя лэдзі» Беларусі таксама не цураюцца эканоміі. Жонка міністра замежных спраў Беларусі Вера Палякова-Макей 11 сакавіка правяла сустрэчу з жонкамі кіраўнікоў дыпламатычных місій і прадстаўніцтваў міжнародных арганізацый з нагоды Дня жанчын. Але замест фуршэтаў і падарункаў яна вырашыла прэзентаваць саму сябе. Яна сыграла для жонак кіраўнікоў дыпмісій у дэтэктыве.

Мерапрыемства адбылося ў Тэатры-студыі кінаакцёра. На сцэне быў прадстаўлены спектакль «Сродак Макропуласа», у якім грае Вера Палякова-Макей. Дэтэктыў у дзвюх дзеях пастаўлены паводле п'есы чэшскага драматурга Карэла Чапека.

Як паведамілі беларускія тэлеканалы, спектакль быў «вельмі цёпла» сустрэты глядачкамі. Наталля Сухавецкая (Украіна) адзначыла, што захопленая майстэрствам акцёраў. Салім Мэйсам Хадзі Салім (Ірак) сказала, што з захапленнем знаёміцца з беларускім мастацтвам і была рада пабываць на такой цікавай сустрэчы. Нгуен Тхі Ха (В'етнам) падкрэсліла, што ёй спадабалася сустракаць 8 сакавіка ў Мінску. Сама ж Вера Палякова-Макей зазначыла, многія з замежных дам даўно прасілі запрасіць на адзін з яе спектакляў, таму яна вырашыла паклікаць усіх на гэтую пастаноўку.

Ці жонкі прадстаўнікоў замежных дыпмісій не могуць купіць квіток у тэатр? Альбо яны таксама эканомяць, па прыкладу беларусаў, на ўсялякіх забаўках?

Але бывае такая эканомія, якая выходзіць бокам. Гарадскія ўлады Мінска падлічылі, што 72% сем'яў мінчан маюць толькі адно дзіця. «Перад горадам стаіць праблема стымулявання нараджальнасці другіх і наступных дзяцей», — адзначыла старшыня камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Мінгарвыканкама Жанна Рамановіч.

Гарадскі цэнтр сацыяльнага абслугоўвання сям'і і дзяцей правёў анкетаванне, каб высветліць, чаго не хапае бацькам для нараджэння наступных дзяцей. «Мы мяркуем, што, акрамя матэрыяльных мер стымулявання, павінны быць створаны пэўныя ўмовы для прыняцця такога рашэння, — лічыць Рамановіч. — Гэта і арганізацыя працы сямейных псіхолагаў, і пытанні паляпшэння жыллёвых умоў, працаўладкавання, зручнага рэжыму працы дзіцячых дашкольных установ».

Адказ тут просты. Можа, некаторыя сем'і і хацелі б завесці другое і трэцяе дзіця, але рабіць дзяцей ім проста няма дзе. Сярэдні кошт новабудоўлі ў Мінску — 1 450 долараў за квадратны метр. Сярэдні кошт двухпакаёўкі — 78 000 долараў. За таннейшы кошт можна знайсці аналагічную кватэру ў Берліне! А ў Сафіі дык і ўвогуле — кошты ўдвая ніжэй.

Так што лепш зэканоміць на псіхолагах, а знізіць кошты на кватэры.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### АЛЕНА АДАМЧЫК



Работы беларускай фотамастачкі Алены Адамчык з серыі «Беларускі» праекта «Жанчыны Еўропы» дэманструюцца на выставе, якая адкрылася ў штаб-кватэры ЮНЕСКА ў Парыжы. Як паведамляе прэс-служба пасольства Беларусі ў Францыі, на выставе «Стоп гвалту супраць жанчын», прымеркаванай да Міжнароднага дня салідарнасці жанчын, прадстаўлены мастацкія творы з васьмі краін: Арменіі, Беларусі, Балівіі, Індыі, Марока, Нідэрландаў, Францыі, Эфіопіі. Арганізатарамі беларускай экспазіцыі выступілі сакратарыят ЮНЕСКА і пастаяннае прадстаўніцтва Беларусі пры ЮНЕСКА. На адкрыцці выставы прысутнічала генеральны дырэктар ЮНЕСКА Ірына Бокава, пастаянныя прадстаўнікі Беларусі, Расіі, іншых краін, прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса, артыстычных і дзелавых колаў, палітычныя дзеячы. Выстава будзе працаваць да 20 сакавіка 2013 года.

Алена Адамчык — фатограф і выдавец, кандыдат біялагічных навук. Мае свае студыі ў Мінску, Вільні і Рызе. Выставы мастачкі праходзілі ў розных гарадах Еўропы: Варшаве, Будапешце, Барселоне, Рызе, Вене, Монтэ-Карла, паведамляе БелаПАН.

### УЛАДЗІМІР МАКЕЙ



Кіраўнік знешнепалітычнага ведамства Беларусі Уладзімір Макей можа стаць своеасаблівым аб'ектам палітычнага гандлю нароўні з беларускімі палітвязнямі.

«Здаецца, Макея ўпускаюць у Еўропу не проста так, а ў абмен на «зялёнае святло» на ўезд у Беларусь некаторых персон нон-грата «з міжнародных арганізацый». Такі запіс на сваёй старонцы ў facebook старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька. Паводле яго слоў, гаворка ідзе пра эстонскага парламентарыя Андрэса Хэркеля, кіраўніка рабочай групы ПАСЕ па Беларусі.

На гэтым тыдні намеснік міністра замежных спраў Польшчы Ежы Памяноўскі заявіў, што ЕС павінен захоўваць «мінімальныя каналы камунікацыі» з Беларуссю. Адносна візавых санкцый, накладзеных Брусэлем на міністра замежных спраў Беларусі Уладзіміра Макея, дыпламат адзначыў, што, магчыма, Еўрасаюз зробіць такі жэст, які далучыць яго, калі можна так сказаць, да прамога дыялогу таксама на сваёй тэрыторыі. Гэта тыя мінімальныя каналы камунікацыі, якія мы павінны выконваць, калі хочам весці дыялог з нейкай дзяржавай. Усё ж мы падтрымліваем дыпламатычныя адносіны з Беларуссю — не толькі Польшча, але і ўсе іншыя краіны-сябры Еўрасаюза.

### АЛЯКСАНДР ВАРЛАМАЎ



Працягваецца судовы працэс па справе беларускага мадэльера, заснавальніка фэшн-вестывалю «Млын моды» Аляксандра Варламава. Ён прызнаў сваю віну толькі ў няўплаце падаткаў. Па дадзеных следства, Варламаў прычыніў шкоду на суму больш за 1 мільярд 200 мільёнаў рублёў.

Былая супрацоўніца «Агенцтва моды Сашы Варламава» Алена Саланевіч, напрыклад, распавяла, што за «афіцыйны» заробак толькі распісвалася ў ведамасці, атрымліваючы ад Варламава грошы ў канверце — «частку ў беларускіх рублях, частку ў валюце — доларах і еўра», на суму каля 500 долараў.

Спадарыня Саланевіч пацвердзіла, што, паводле ведамасцяў, на замежныя паездкі дзяцей-мадэляў і іх бацькоў вылучаліся некаторыя грошы, але бацькі ўсё адно аплачвалі выдаткі самастойна. А грошы, што праходзілі па дакументах, Варламаў выдаткоўваў на арганізацыйныя мерапрыемствы.

Алена Саланевіч падкрэсліла, што падчас паездак узнікалі «неспадзяваныя выдаткі», на якія патрабаваліся грошы. «Аднойчы ў Вене кіроўцы паставілі аўтобусы на платную стаянку, — прывяла прыклад спецыяліст па дэфіле. — Варламаў асабіста выцягнуў з кашалька грошы і аплаціў». Патрабаваліся сродкі і «на арганізацыю паказу, светлавое і гукавое абсталяванне», а таксама фуршэты: пацярпелая ўзгадала, што з сабой дэлегацыі вазілі прадукты: «1–2 скрыні шампанскага, хлеб дарылі, цукеркі камунаркаўскія 5–10 кг».

«Як кіраўніка» Саланевіч заўсёды паважала Варламава, і нават «казала гэта на следстве». Вось толькі пачуўшы, што пацярпелую «задавальняла яго працаздольнасць, гэта было нейкай школай, магчымасцю ўдзельнічаць у мерапрыемствах рэспубліканскага маштабу», следчыя, па словах Саланевіч, «прасілі яго не абараняць».

Варламаў заявіў у судзе, што бачыў вынікі сваёй магнітна-рэзанансная тамаграфіі: у яго заблакавана 4 пазванкі і 2/3 спіннога мозгу. У суд мадэльер ходзіць з міліцамі, ён кажа, што патрабуецца чарговая аперацыя на хрыбетніку.

КРУГЛЫ СТОЛ

# ДЗЯРЖАВА ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ: ІДЭАЛЫ БНР І СУЧАСНАСЦЬ

**Напярэдадні Дня Волі арганізатары святкавання праводзяць шэраг круглых сталоў у рэдакцыях незалежных газет. Першы такі круглы стол адбыўся ў рэдакцыі НЧ.**




Лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька, старшыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларускі рух» Віктар Івашкевіч, старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч, адказны сакратар аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Дзяніс Садоўскі абмяркоўвалі, што такое незалежнасць Беларусі, якія зараз ёсць для яе пагрозы, які цывілізацыйны выбар павінна зрабіць Беларусь, і якія правы і свабоды дагэтуль не рэалізаваныя з часоў БНР. Вёў сустрэчу рэдактар «Новага Часу» Аляксей Кароль.

## Незалежнасць як перамога

**Аляксей Кароль:** Што з часоў БНР засталося ў гісторыі, што прыдатна для сённяшняга часу і можа быць увасоблена пры ўмове трансфармацыі гэтага рэжыму ў рэжым дэмакратычны?

**Віктар Івашкевіч:** Трэцяя Устаўная грамата БНР абвясціла Беларусь незалежнай краінай, якая парывае федэратыўную сувязь з Расійскай імперыяй. Тыя дэмакратычныя свабоды, якімі павінны карыстацца грамадзяне Беларусі, сфармуляваныя ў Другой Устаўнай грамаце. Гэта ўсе тыя свабоды, якія агучаныя як неабходныя ў еўрапейскіх краінах. Зараз сітуацыя мяняецца, і мяняюцца погляды на сацыяльна-эканамічнае развіццё. Але тое, што Беларусь павінна быць незалежнай, што яе грамадзяне павінны карыстацца сваімі правамі, было актуальна тады і зараз.

**Анатоль Лябедзька:** Я адзначыў бы незалежнасць як вялікае дасягненне прыхільнікаў пераменаў Беларусі. Яны не толькі адстаялі суверэнітэт, а надалі гэтым ідэям большую папулярнасць і каштоўнасць. Апошнія сацыялагічныя даследаванні, да якіх мы можам апеляваць, паказваюць, што толькі 4–6% людзей сёння выступаюць за тое, каб Беларусь была інтэграваная ў склад Расійскай Федэрацыі.

Гэтыя лічбы самі па сабе не з'явіліся. Калі некаторыя крытыкі палітычнай апазіцыі і грамадзянскай супольнасці цвердзяць, што ў нас толькі адны паразы, з імі я б хацеў уступіць у жорсткую дыскусію. Перамога — тое, што незалежнасць стала нешта каштаваць для людзей. Не толькі для лідараў палітычных партый, для рэдактараў незалежных газет, але і для шараговых грамадзян, якія працуюць на Трактарным заводзе слесарамі альбо сталярамі.

## Пагроза ў эканоміцы

**Аляксей Кароль:** А ці не ёсць гэта проста звычкай за 20 гадоў жыцця ў незалежнасці? Да таго ж і недэмакратычны рэжым зацікаўлены ў захаванні незалежнасці дзеля ўласнага самазахавання?

**Дзяніс Садоўскі:** Можна ўзгадаць, якое слова было самым модным пасля прыходу да ўлады Лукашэнкі — «інтэграцыя». З усіх афіцыйных трыбун толькі і гучала — «інтэграцыя з Расіяй». Зараз гэта слова састарэла, і ніхто не ўзгадвае пра тое, што калісьці здавалася галоўнай мэтай. Гэта дасягненне апазіцыі, якая на той момант адстойвала незалежнасць.

Зараз востра паўстае пытанне аб незалежнасці эканамічнай. Наколькі самастойная Беларусь у фармаванні сваёй эканомікі? Наколькі горадаўтваральныя прадпрыемствы належаць Беларусі? Якраз ідзе продаж асноўных эканомікаўтваральных прадпрыемстваў, у асноўным Расіі — за тыя крэдыты, якія атрымлівае рэжым, і вяртаць якія не збіраецца.

Зараз пачынаецца іншы этап змагання за незалежнасць — эканамічную незалежнасць Беларусі, перш за ўсё — ад Расіі. Бо, калі мы яе згубім, то неўзабаве згубім незалежнасць палітычную. Апазіцыя павінна паказваць, як мы збіраемся бараніць эканамічную незалежнасць.

**Віктар Івашкевіч:** У чарговы раз узнікае пытанне: «А што вы маеце на ўвазе пад незалежнасцю?» Раней было ясна сфармулявана: «Незалежнасць = дэмакратыя = развіццё эканомікі = правы чалавека». А інтэграцыя — гэта Расійская імперыя і адсталасць. Зараз узнікае іншая дылема: калі незалежнасць — гэта незалежнасць улады Лукашэнкі, і шмат хто з ранейшых прыхільнікаў незалежнасці пачынаюць казаць: «А можа, і нармальна інтэгравацца з Расіяй?» Гэта ў любым выпадку лепш, чым Паўночная Карэя ў цэнтры Еўропы.

**Анатоль Лябедзька:** Калі мы хочам умацаваць эканамічны і палітычны суверэнітэт, то нам патрэбна навязваць уладзе (а для сябе — мець перспектыву) рэалізацыю ліберальнай павесткі дня. Гэта датычыць як палітычнай складовай, так і эканамічнай.

Нам трэба ствараць магчымасці, моцны малы і сярэдні нацыянальны бізнэс. Гэта ёсць у пэўнай ступені абарона эканамічнага і палітычнага суверэнітэту. Таму што людзі, якія тут нарадзіліся, выраслі, самарэалізаваліся ў сваім жыццёвым выбары, у сваёй справе, маюць моцную матывацыю бараніць сваё. Гэта вельмі моцныя сілы, гэта сярэдні клас.

## Расія як пагроза

**Аляксей Кароль:** На працягу стагоддзяў Беларусь была разменнай манетай паміж Захадам і Усходам. На сёння Захад для Беларусі — партнёр і сябра. Што тычыцца Расіі, то, на мой погляд, тут няма адназначнага адказу. Дакладней, яе пазіцыя ў сённяшніх варунках бачыцца такой: пры захаванні за Беларуссю фармальнай незалежнасці паставіць яе ў поўную васальную залежнасць. Наколькі сёння рэальная пагроза рэалізацыі ідэі імперскай Расіі?

**Аляксей Янукевіч:** Пагроза вельмі вялікая. Мы гэта бачым і па тым, як змяняецца знешняя палітыка Расіі ў апошнія два гады.

Сёння нельга сказаць, што існуючая беларуская ўлада знаходзіцца ў стоадсоткавай залежнасці ад Расіі, Лукашэнка пакуль што захаваў сваё поле для манеўра, але гэтае поле імкліва скарачаецца. Лукашэнка, на маю думку, уяўляе сабе гэтую небяспеку. А для Беларусі тое, што сёння адбываецца, — пагроза стаць новай калоніяй Расіі.

Адзінае, што можа гэтаму супрацьстаяць, — гэта беларускае грамадства, калі яно здолее паказаць, што не прымае ўмяшальніцтва Расіі. І калі на гэтыя знакі і сігналы беларускага грамадства зрэагуюць іншыя краіны свету, перадусім, моцныя краіны Еўропы, ЗША, яны дашлюць сігнал Расіі. У адваротным выпадку мы зноў можам трапіць у залежнасць, нават і пры захаванні фармальнага суверэнітэту.

**Дзяніс Садоўскі:** Пакуль будзе існаваць таталітарная Расія, да таго часу будзе існаваць пагроза страты незалежнасці Беларусі. Гістарычна, так было заўсёды, так ёсць і сёння. Пакуль ёсць магчымасць для Расіі прыдбаць Беларусь праз эканамічны ціск, праз скупку прадпрыемстваў, праз датацыі і падтрымку рэжыму, яна будзе гэта рабіць. Ваенная небяспека з боку Расіі, — гэта ўжо скрайняя пагроза. Але пры атрыманні сапраўднай незалежнасці Беларусі, калі Расія страціць эканамічны ўплыў на Беларусь, безумоўна, магчымыя і такія метады. Прыклад — вайна ў Грузіі.

**Анатоль Лябедзька:** Праблема не толькі ў Расіі. Калі сярэдні заробак у Расіі будзе 800–900 долараў, а ў нас 300–400, калі мільён беларусаў будзе гастарбайтэрамі ў Расіі, мы заўсёды будзем прайграваць. Таму вельмі важна зараз сфармаваць павестку дня, рэалізацыя якой умацоўвае эканамічны і палітычны суверэнітэт. Гэта і тое, што датычыцца пытання ўласнасці, мадэлі прыватызацыі, пытання, што будзе створана для развіцця малога і сярэдняга нацыянальнага бізнэсу. Як і рэформа палітычнай сістэмы, судовай сістэмы, сістэмы прыняцця рашэнняў. З гэтым пасланнем трэба ісці да грамадзян Беларусі.

## Еўропа: садружнасць без інтэграцыі

**Аляксей Кароль:** І ўсё ж такі, які фармат нашага цывілізацыйнага выбару? Я разумею, што большасць прысутных тут за еўрапейскі выбар пры захаванні нармальных адносінаў з Расіяй.

**Віктар Івашкевіч:** Усе нашы арганізацыі дэкларуюць, што мы хацелі б, каб наша краіна ўвайшла ў склад Еўрасаюза, але Еўрасаюз выстаўляе пэўныя патрабаванні. Неабходны цэлы комплекс рэформаў, каб можна было ставіць пытанне аб уваходжанні ў склад ЕС. І вось тут як прамежкавы этап можа быць асацыяцыя з Еўрасаюзам. Гэта вольны рынак і правядзенне эканамічных і палітычных рэформаў, якое стварае базу супрацьдзеяння расійскаму ўплыву.

**Аляксей Янукевіч:** Тое, што ад нас залежыць, на сённяшні момант, — абвяшчэнне неабходнасці максімальнага набліжэння Беларусі да пераважнай большасці еўрапейскіх стандартаў. Мы мусім набліжацца і ставіць пытанне пра жаданне Беларусі быць у ЕС. І калі ў нейкай ступені пытанне будзе вырашацца — Беларусь прымуць у ЕС, альбо ЕС пачне развальвацца, пытанне пра рэгіянальнае супрацоўніцтва ў межах Балта-Чарнаморскай супольнасці, пра якую БНФ казаў яшчэ напачатку 1990-х.

**Дзяніс Садоўскі:** Беларусь — еўрапейская краіна? Так. Беларусь мусіць развіваць еўрапейскі вектар? Так. Ці мусіць Беларусь уваходзіць у ЕС? Вялікае пытанне.

Некаторыя каштоўнасці ЕС, на наш погляд, для Беларусі непрымальныя. Еўрапейска-ліберальныя каштоўнасці і навязванне гэтых каштоўнасцяў пад шыльдай дэмакратыі для Беларусі мы лічым шкодным.

## Дэмакратыя як выбар

**Аляксей Кароль:** Але ажыццявіць гэты выбар немагчыма без дэмакратыі і выканання правоў чалавека ў краіне. Як вам, палітыкам, бачацца правы чалавека як складнік спадчыны БНР і іх рэалізацыя тут?

**Віктар Івашкевіч:** Прынцыпы, сфармуляваныя ў 1918 годзе айцамі БНР, абсалютна не састарэлі. Гэта свабода на творчасць, свабода веравызнання і рэлігійных арганізацыяў, свабода асацыяцыяў, свабода палітычных партыяў. Карацей, усе свабоды, звязаныя з разняволеннем творчых ініцыятыў людзей. Дадаецца яшчэ адна свабода, якую мы абмяркоўваем і пра якую мы кажам, — гэта незалежнасць судоў.

Адзіны момант, які адрознівае сітуацыю ў Беларусі ад агульнаеўрапейскай, гэта пытанне нацыянальных правоў беларусаў. Ва ўсёй Еўропе мова вялася і вядзецца аб правах нацыянальных меншасцяў. У нас жа і да сёння ёсць праблема з правамі беларусаў — нацыянальнай большасці. Але гарантыі правоў беларусаў як большасці не павінны супярэчыць правам меншасці. Вось тут патрэбны пошук балансу, асабліва ў той моўнай сітуацыі, якая ёсць.

Кожны грамадзянін мае права атрымаць паслугі ад чыноўнікаў, у сферы гандлю, сферы аховы здароўя на той мове, на якой ён звяртаецца. Не можа быць сітуацыі, калі ён кажа па-беларуску, а яго не разумеюць, як і не можа быць сітуацыі, калі ён кажа па-руску, а яму кажуць: «Ідзі адсюль, пакуль мову не вывучыш». Забяспечанне і рускамоўным, і беларускамоўным роўных умоў, я лічу, гэта тое, што трэба вырашаць зараз.

На сённяшні дзень роўных правоў не існуе, а двухмоўе чыноўнікі разглядаюць як права адну з дзяржаўных моў не ведаць.

**Аляксей Янукевіч:** Мы маем прыклад 1994 года, калі на адносна свабодных і дэмакратычных выбарах перамог чалавек, які на свабодзе і дэмакратыі паставіў крыж. Складнікам дэмакратыі, нашага еўрапейскага выбару павінна быць нацыянальна-культурнае адраджэнне. У беларускай нацыянальнай ідэі закладзена ўжо і свабода, і гарантаванне правоў і еўрапейскасць. Калі мы ўсе разам будзем працаваць для нацыянальнага адраджэння, у людзей безупынна будзе прарастаць і пашырацца нацыянальная самасвядомасць. Гэта, на маю думку, і ёсць гарантыя незваротнасці таго, што Беларусь будзе рухацца ў цывілізацыйным еўрапейскім вектары.

**Дзяніс Садоўскі:** Хрысціянскія дэмакраты разглядаюць свабоды як магчымасць асобы для самарэалізацыі ва ўсіх сферах. Але, калі нейкія свабоды разбураюць грамадства, якія падаюцца пад нейкай шыльдай «еўрапейскіх каштоўнасцей» ці іншымі шыльдамі, ад іх грамадства павінна засцерагацца. Мы за абмежаванне так званых «еўрапейскіх каштоўнасцяў», якія вядуць да разбурэння грамадства.

**Аляксей Кароль:** Падвядзем рысу. Незалежнасць, грамадзянскія правы — гэта тое, што трэба абараняць штодня. Набыццё Беларуссю незалежнасці ў 1991 годзе — гэта працяг шляху БНР, ідэалы якой не састарэлі. Сапраўдная незалежная Беларусь — наша змаганне і наша будучыня.

АЭС

# ЧАРНОБЫЛЬ, ФУКУСІМА — ШТО НА ЧАРЗЕ?

Уладзімір ВАЛОДЗІН

**Аварыя на АЭС Фукусіма-Даічы, якая пачалася 11 сакавіка 2011 года, спаборнічае з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС за званне найвялікшай ядзернай катастрофы. Хаця, здавалася, што пасля ЧАЭС увесь свет павінен быў зразумець небяспеку ядзернай энергетыкі.**




Мястэчка-здань Футаба, у якім знаходзяцца рэактары 5 і 6 АЭС Фукусіма-Даічы. Надпіс на транспаранце: «Ядзерная энергетыка — гэта энергія светлай будучыні»

## Рукатворная катастрофа

Лабісты атамнай энергіі хацелі б прадставіць аварыю ў прэфектуры Фукусіма як выкліканую прыроднымі чыннікамі, якія чалавек не ў стане кантраляваць. Таксама яны хочуць зрабіць выгляд, быццам такая аварыя магчыма толькі ў Японіі з-за землятрусу і цунамі.

Але аварыя з такім ходам падзей можа адбыцца ў любой мясцовасці і без землятрусу, і без цунамі. Дастаткова, каб былі перарваныя лініі электраперадач і не завяліся аварыйныя генератары. І перарыванне ліній, і выпадкі адмовы аварыйных генератараў перыядычна здараюцца на АЭС па ўсім свеце, і тое, што такая аварыя адбылася ў 2011 годзе, а не ў 2005-м — выпадак.

Як і ў Чарнобылі, прынцыповай прычынай катастрофы былі інстытуцыйныя хібы атамнай індустрыі і рэгулюючых яе органаў. Гэта яны не прызнавалі рэальную рызыку такой аварыі, не здолелі распрацаваць і ўвасобіць у жыццё адпаведную сістэму бяспекі і ставілі за галоўную задачу не абараніць людзей і навакольнае асяроддзе, а развіваць сваю галіну індустрыі і атрымліваць прыбыткі.

Як і ў Чарнобылі, рэактары АЭС Фукусіма-Даічы былі прынцыпова хібнай канструкцыі. Распрацаваныя амерыканскай кампаніяй General Electric рэактары з вадой, што кіпіць, знайшлі прымяненне на ўсіх шасці блоках станцыі Фукусіма-Даічы. Канструкцыя рэактараў неаднаразова ўсур'ёз крытыкавалася нават спецыялістамі з атамнай індустрыі, але гэта не прывяло да іх закрыцця.

Фукусімская катастрофа — тэхнагенная, а не прыродная, як хацелі б прадставіць адвакаты ядзернай энергетыкі.

## Наступствы катастрофаў

Вядома, ёсць аспекты, па якіх сітуацыя ў Японіі лепей за сітуацыю ў Беларусі 25 гадоў таму. Перадусім гэта выклікана жаданнем людзей атрымліваць і распаўсюджваць праўдзівыя звесткі пра сітуацыю і большай адкрытасцю сённяшняй Японіі ў параўнанні з тагачасным СССР.

У адрозненне ад 1986 года ў СССР, у 2011-м у Японіі большменш своечасова была праведзена ёдная прафілактыка. У перасяленых дзетак з прэфектуры Фукусіма зафіксавана некалькі выпадкаў раку шчытападобнай залозы. Пакуль складана сказаць, наколькі гэта часцей, чым у сярэднім па Японіі. Але пацярпелыя ад аварыі чакаюць усплёску захворванняў. Многія жанчыны зрабілі аборты, але лічба іх не вядомая — гэтая статыстыка не даступная.

Эвакуацыя ў Фукусіме была праведзеная запозна. Але ў адрозненне ад земляў, што пацярпелі ад Чарнобыля, адсяленне спазнілася не на тыдні, месяцы і гады, а на некалькі дзён.

Паколькі людзі Японіі лепей інфармаваныя, дык іх не кідалі, як у Чарнобылі, разграбаць аварыйныя завалы голымі рукамі. Набор быў добраахвотны, таму колькасць ліквідатараў адносна невялікая. Адпаведна, пры меншай колькасці ліквідатараў будзе і меншая колькасць цяжка хворых ахвяр аварыі. Але, як і ў Чарнобылі, ліквідатарам заніжаюць паказальнікі атрыманых доз радыяцыі. І, як у Чарнобылі, выклікаюць сумнеў спробы «адмыць» забруджаныя і адселеныя вёскі. Насцярожвае жаданне японскага ўрада вярнуць туды людзей.

І, як у Чарнобылі, за памылкі ядзернай індустрыі расплачваюцца перадусім звычайныя людзі. У дакладзе «Грынпіс», падрыхтаваным да другой гадавіны катастрофы, аўтары даводзяць: «крайнімі» сталі перасяленцы, якія атрымліваюць занадта малыя кампенсацыі, што і блізка не параўноўваюцца з коштам страчанага жылля, зямлі (многія перасяленцы — сяляне) ды іншай маёмасці. І падаткаплатнікі, бо асноўная частка кампенсацый і коштаў ліквідацыі наступстваў аварыі сплочваецца не са сродкаў кампаніі ТЕРСО, а з японскага бюджэту.

## Ці зробленыя высновы?

У Італіі ў 2011, а ў Літве ў 2012 годзе на рэферэндумах адмовіліся ад планаў будаўніцтва АЭС. У Германіі было адразу зачынена 8 АЭС і скарацілся тэрміны эксплуатацыі астатніх. Швейцарскія ўлады агучылі намеры паступова адмовіцца ад ядзернай энергетыкі. Францускі прэзідэнт Франсуа Аланд узяў курс на паступовае закрыццё АЭС.

У самой Японіі былі спыненыя ўсе 54 рэактары на АЭС для прывядзення ўзроўню бяспекі ў адпаведнасць новымі стандартамі, што распрацоўваюцца. 4 аварыйныя рэактары АЭС Фукусіма-Даічы афіцыйна выведзеныя з эксплуатацыі. З астатніх 50 у бягучы момант працуюць толькі 2. Планы вярнуць рэактары да эксплуатацыі сустракаюць моцны супраціў японскага народа.

А ў Астравецкім раёне поўнай хадой ідзе будаўніцтва першай беларускай АЭС.

Старшыня дабрачыннага фонду "Дзецям Чарнобыля" Генадзь Грушавы звяртае ўвагу на тое, што, як і ў СССР, сённяшнія беларускія ўлады не пыталіся ў насельніцтва, ці згоднае яно з планамі будаўніцтва АЭС. Таксама эксперта непакоіць скарачэнне праектных тэрмінаў будаўніцтва станцыі. Прынцып «чым хутчэй, тым лепш» у атамнай энергетыцы абсалютна не дапушчальны. Некалі Чарнобыльскую АЭС таксама здалі на 2 гады раней тэрміну. Шмат пытанняў застаецца і да выбару пляцоўкі для будаўніцтва. Таксама Генадзь Грушавы перакананы, што існуюць і іншыя прычыны, з-за якіх трэба адмовіцца ад планаў будаўніцтва атамнай станцыі. Найперш гэта яшчэ большая энергетычная залежнасць ад Расіі, якая будзе пастаўляць на Астравецкую АЭС ядзернае паліва. Як заўважае эксперт, праектанты АЭС падкрэсліваюць тое, колькі сродкаў дазволіць ашчаджаць будучая станцыя на «дармовай» атамнай энергіі. І пры гэтым маўчаць наконт таго, што эканамічная выгада ад станцыі нівелюецца тымі пазыкамі, якія давядзецца ўзяць Беларусі на будаўніцтва ўласнай АЭС.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# КАГО НЕПАКОІЦЬ ПАХ НАФТЫ?

Сяргей ПУЛЬША

**Беларусь і Расія ўзгаднілі аб'ём паставак нафты. Але толькі на другі квартал. Расія паставіць Беларусі нафту ў памеры 5,75 мільёна тон.**

Дамоўленасць аб гэтым была дасягнута вечарам 12 сакавіка падчас перамоў у Маскве першага віцэ-прэм'ера Беларусі Уладзіміра Сямашкі і намесніка старшыні ўрада РФ Аркадзя Дварковіча, паведаміла прэс-сакратар расійскага віцэ-прэм'ера Алія Самігуліна.

Але трэба адзначыць, што гэта не зусім тое, чаго чакаў беларускі бок. Беларускі бок жадае гадавога кантракту і ўпэўненасці ў будучыні. Але гадавы кантракт на аб'ём 23 мільёна тон не падпісаны.

Масква настойвае на тым, каб нафты даваць Беларусі для перапрацоўкі «упрытык», — толькі 18,5 мільёна тон, хаця нашы нафтаперапрацоўчыя заводы здольныя на большае. Расіяне былі не вельмі ўсцешаныя, калі «лішняя» нафта ў мінулыя гады сыходзіла з Беларусі пад выглядам распушчальнікаў і разбаўляльнікаў. Зараз, пэўна, Масква знайшла выйсце ў тым, каб паставіць пад жорсткі кантроль колькасць нафты падпісаннем толькі кароткатэрміновых кантрактаў — на тры месяцы. Менавіта такую схему навязваюць зараз Беларусі. Беларусь, зразумела, не пагаджаецца, бо ў такім выпадку «няма стабільнасці».

З іншага боку, Крэмль можа «трымаць паўзу» і па палітычных матывах — 15 сакавіка ў Санкт-Пецярбурзе павінна адбыцца пасяджэнне Вышэйшага дзяржсавету Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. Зараз на гэты Дзяржсавет беларуская дэлегацыя паедзе, канешне, не зусім з пустымі рукамі. Хоць кароткатэрміновы кантракт па пастаўках нафты, але ёсць. Але, калі б была дамоўленасць па нафце на год, то на беларускую дэлегацыю ўжо не так моцна можна было б ціснуць. А калі зараз такой дамовы няма, дык «сінявокія» хочуць яшчэ і 2 мільярда долараў крэдыту атрымаць «на мадэрнізацыю», — то тады з беларускіх прадстаўнікоў там можна вяроўкі віць. Зразумела, «старэйшы брат» гэтым і скарыстаецца.

Тым больш, што ў лютым гэтага года Пуцін і Назарбаеў правялі двухбаковую сустрэчу. У адсутнасці Аляксандра Лукашэнкі яны дамовіліся інтэнсіфікаваць стварэнне Адзінай эканамічнай прасторы і прасоўванне ў бок Еўразійскага эканамічнага саюза. Цалкам эканамічны саюз павінен запрацаваць ужо хутка — у 2015 годзе. Таму Лукашэнку могуць паставіць перад фактам: інтэнсіфікавацца як мага хутчэй. А калі не — адключаць нафту.

Але што рускаму добра, то немцу смерць, і наадварот. Пакуль дзяржавы заключаюць маштабнымі праектамі, шараговыя грамадзяне Беларусі і Расіі застаюцца ў выйгрышы. У Расію ідзе танны беларускі бензін, а з Расіі, вядома, грошы за гэты бензін.

Кошты на бензін як на біржы, так і на пазабіржавым рынку Расіі ў пачатку сакавіка раптам пачалі зніжацца, паведамляюць расійскія СМІ. Прычыны такога, як пішуць расійцы, «незвычайнага для дадзенага часу года» зніжэння выкліканыя паніжэннем коштаў на нафтапрадукты ў Еўропе і ростам паставак паліва з Беларусі.

Беларускія вытворцы бензіну забяспечылі на мінулым тыдні больш за 20% пагадненняў па АІ–92 на Санкт-Пецярбургскай міжнароднай таварна-сыравіннай біржы. Пры гэтым бензін у Расію вязе не толькі Беларуская нафтавая кампанія, але і расійскія вертыкальна інтэграваныя нафтавыя кампаніі, якія перапрацоўваюць у Беларусі нафту па давальніцкай схеме.

У панядзелак «ЛУКОЙЛ» у адрасным рэжыме прадаў «Раснафце» праз біржу 5 тысяч тон АІ–92, выраблената ў Беларусі, — здзелка прайшла па ніжняй мяжы рынку. Дзякуючы зніжэнню ў апошнія тры тыдні сусветных коштаў на нафту, беларускія НПЗ, якія традыцыйна працуюць на арбітражы паміж рынкамі Расіі, Украіны, Прыбалтыкі і Польшчы, могуць без асаблівых страт для сябе знізіць кошты на бензін, які пастаўляецца ў РФ яшчэ на 700 расійскіх рублёў на тону.




У выніку, на пачатак сакавіка расійскі рынак нафтапрадуктаў, па меншай меры, яго біржавы сегмент, апынуўся рынкам пакупніка, і цяпер прапанова бензіну перавышае попыт.

«У гэтай сітуацыі няма нічога незвычайнага ў тым, што беларускія заводы дэманструюць добрую волю, павялічваючы пастаўкі бензінаў на расійскі рынак. Гэта датычыцца і расійскіх нафтавых кампаній, якія перапрацоўваюць нафту ў Беларусі — яны павінны быць гатовыя да пытанняў, якія могуць быць зададзены па вяртанні прадукту», — кажуць расійская аналітыкі.

Удзельнікі рынку не выключаюць, што сітуацыя можа разгарнуцца ў адваротны бок ужо ў трэцяй дэкадзе сакавіка, калі расійскія НПЗ пачнуць спыняцца на прафілактыку.

Здаецца, Расія зразумела, што, калі ў гэты час у беларускіх нафтаперапрацоўчых заводаў не будзе хапаць нафты, то ні аб якой «добрай волі» беларускіх нафтаперапрацоўшчыкаў не можа быць і размовы. А на расійскім рынку можа раптам узнікнуць дэфіцыт бензіну. Сітуацыя абвострыцца не толькі пастаноўкай расійскіх НПЗ на прафілактыку, і не толькі недахопам нафты на беларускіх НПЗ, але яшчэ і тым, што ў Беларусі пачнецца пасяўная кампанія. Традыцыйна, падчас яе ніводнай кроплі паліва не павінна сыходзіць «налева» (прынамсі, так кожны раз дэкларуецца). Гэтым разам «злева» можа апынуцца Расія.

Так што, асэнсаваўшы ўсе небяспекі, а асабліва тое, што братэрскай Расіі таксама штосьці трэба заліваць у бакі сельскагаспадарчай тэхнікі, бакі проста вымушаныя былі падпісаць кароткатэрміновы, але кантракт.

Але калі нафта скончыцца ўлетку, асаблівай патрэбы ў бензіне не будзе — пасяўная скончыцца, дый наступіць час адпачынкаў, калі ўсе паставяць машыны на прыкол і з'едуць у цёплыя краіны. І па «трэцім траншу нафты» Беларусі будзе дамовіцца значна складаней.

▸ СМЯРОТНАЕ ПАКАРАННЕ

# ГАДАВІНА РАССТРЭЛАЎ КАВАЛЁВА І КАНАВАЛАВА

Генадзь КЕСНЕР

**Гэтымі днямі спаўняецца год з моманту прывядзення ў выкананне смяротнага прысуду ў дачыненні да фігурантаў крымінальнай справы па выбуху ў мінскім метро Уладзіслава Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава. Да сёння ўлады не выдалі сваякам целы расстраляных і не паведамілі, дзе яны пахаваныя. Блізкія нават не ведаюць канкрэтнай даты, калі хлопцы былі пазбаўленыя жыцця.**



## Шок для родных

Магчыма, гэта адбылося 14 альбо 15 сакавіка 2012 года. Бо 17 сакавіка Любоў Кавалёва — маці на той момант дваццацішасцігадовага Уладзіслава — атрымала па пошце ліст з Вярхоўнага суда Беларусі, датаваны 16 сакавіка, у якім казалася пра тое, што прысуд у дачыненні да яе сына прыведзены ў выкананне. А яшчэ раней, 14 сакавіка, кіраўнік дзяржавы паведаміў СМІ, што прыняў рашэнне пра непамілаванне Канавалава і Кавалёва. Для жанчыны гэта быў шок, як і для сястры пакаранага. І для многіх з тых, хто потым прыносіў кветкі ў пад'езд дома ў Віцебску, дзе жыў Улад, хто спрабаваў паставіць ягоны партрэт з чорнай стужкай ля знешняга ўваходу на станцыю метро «Кастрычніцкая».

Ні сваякі, ні тыя, хто ведаў Кавалёва, дагэтуль не вераць, што Улад меў дачыненне да выбуху ў метро, які каштаваў жыцця пятнаццаці чалавекам і здароўя яшчэ сотням. Не пераканалі ў гэтым многіх ні следства, ні довады абвінаваўцаў, ні сам ход судовага разбіральніцтва, падчас якога многія прысутныя, у тым ліку незалежныя юрысты і праваабаронцы, адзначалі шмат нестасовак і недакладнасцяў.

## Кароткая перадгісторыя

Жудасны выбух на амаль заўсёды перапоўненай станцыі метро «Кастрычніцкая» прагучаў у «гадзіну пік» — каля шостай вечара 11 красавіка 2011 года. Чатырнаццаць чалавек загінулі амаль адразу, яшчэ адзін чалавек пазней памёр у шпіталі. Па розных звестках, да пяцісот чалавек атрымалі пашкоджанні рознай цяжкасці, некаторыя засталіся інвалідамі на ўсё жыццё. У пешыя суткі пасля трагедыі па горадзе распаўзаліся розныя чуткі пра нейкія новыя выбухі. Аднак усё гэта, на шчасце, аказалася лухтою.

Ужо праз менш як два дні з вуснаў самога кіраўніка дзяржавы прагучалі словы пра тое, што справа раскрытая, а злачынцы злоўленыя і ўжо далі прызнальныя паказанні. Прычым, паводле следства, аказалася, што абвінавачваемы Канавалаў спрычыніўся і да шэрагу выбухаў у Віцебску ў 2005 годзе, а таксама да выбуху ў Мінску ў ноч на 4 ліпеня 2008 года, падчас святкавання Дня Незалежнасці Беларусі (Дня Рэспублікі), у выніку чаго раненні атрымалі дзясяткі людзей. Суд быў надоўгім, прысуд — смяротным. І Канавалаву, і Кавалёву. Дарэчы, Уладзіслаў яшчэ на судовых слуханнях заяўляў, што быў вымушаны агаварыць Дзмітрыя пад ціскам з боку следчых. Але ніякіх рашэнняў па праверцы словаў Кавалёва ні пракуратурай, ні судом зроблена не было. Як не браліся да ўвагі судом заявы адваката Кавалёва Станіслава Абразея пра тое, што меў месца мантаж відэастужак з метро, якія фігуравалі ў якасці доказаў з боку абвінавачвання.

## Маці не здаецца

Любоў Кавалёва вырашыла ісці да канца, каб, паводле яе словаў, вярнуць добрае імя яе сыну. «Зараз мы працягваем дабівацца хацця б таго, каб нам раскрылі месца пахавання Улада. То бок, у рашэнні Камітэта ААН па правах чалавека гаворыцца, каб дзяржава хацця б раскрыла месца пахавання майго сына. А ў далейшым, натуральна, будзем рабіць усё, каб вярнуць добрае імя Улада і Дзімы, таму што яны разам, яны ўдвух бязвінна асуджаныя, бязвінна расстраляныя, таму будзем рабіць усё, што ад нас залежыць», — паведаміла Любоў Кавалёва.

## Чаму маўчаць сваякі Канавалава

Усе прысутныя на судзе адзначалі дзіўныя паводзіны галоўнага абвінавачваемага ў справе выбуху ў метро Дзмітрыя Канавалава. Маладзён практычна ўвесь час маўчаў, нічога не каментаваў, не даваў паказанні. Ён толькі неяк абыякава прызнаў сваю віну ў здзяйсненні злачынства. Ні падчас судовага следства, ні нават пасля паведамлення аб прывядзенні смяротнага прысуду ў выкананне блізкія Дзмітрыя ніяк не рэагавалі. Чаму?

«Вы самі ўявіце, у якой сітуацыі апынулася сям'я Канавалавых. З першага дня арыштоўваюць поўнасцю сям'ю, то бок у закладніках апынулася ўся сям'я, — адзначае Любоў Кавалёва. — Сама маці Дзімы мне пра гэта не казала, але я размаўляла з тымі людзьмі, з якімі яна працуе. На адрас сямейнікаў Канавалава былі пагрозы, каб яны маўчалі, таму што могуць пасадзіць і мужа, і старэйшага сына. Іх ахоўвалі да канца мая. У судзе, калі іх прывялі ў залу быццам бы для дачы паказанняў, якімі насамрэч сведкамі маглі з'явіцца бацькі Дзімы? Ніякімі. Іх прывялі пад канвоем, вывелі пад канвоем, гэта была дэманстрацыя, каб Дзіма памятаў пра гэта і маўчаў, маўляў, з тваімі блізкімі можа адбыцца ўсё што заўгодна. А зараз ягоная маці кажа: які сэнс пра нешта казаць, калі дзяцей забілі?»

Сама Любоў Кавалёва вядзе вельмі актыўную кампанію дзеля таго, каб у Беларусі адмянілі смяротнае пакаранне. Падчас сустрэчаў на міжнародным узроўні, з замежнымі палітыкамі і праваабаронцамі, яна заклікае рабіць усё, каб дабіцца ад беларускіх уладаў адмены расстрэльных прысудаў.

«Тое, праз што я прайшла, што я перажыла, што перажыў мой сын, — гэта вельмі балюча і страшна. Я не хачу, каб якая-небудзь маці яшчэ раз прайшла той шлях, які прайшла я, які прайшлі тыя маці, чые дзеці былі расстраляныя да нашых хлапчукоў, — кажа Любоў Кавалёва. — У дзяржаве, дзе няма справядлівага суда, дзе следства вядзе крымінальную справу «па званку», наяўнасць смяротнага пакарання з'яўляецца недапушчальнай. Такія працэсы, як над Дзімам і Уладам, з расстрэльнымі прысудамі, праводзяцца дзеля запалохвання людзей».

## Не прыслухаліся да ААН

Варта нагадаць, што яшчэ 14 снежня 2011 года ў Камітэт ААН па правах чалавека быў накіраваны зварот, зарэгістраваны на наступны ж дзень. У рэкордныя тэрміны, менш як за год, справа Кавалёва была разгледжана, хоць на той момант маладзёна ўжо не было сярод жывых. Апроч таго, Уладзіслаў Кавалёў і ягоны адвакат накіроўвалі скаргу ў той жа Камітэт ААН адразу пасля таго, як быў вынесены смяротны прысуд. ААНаўская структура прасіла ўрад Беларусі не прыводзіць прысуд у выкананне да таго часу, як скарга будзе разгледжаная.

Да таго ж, у інтэрнэце была разгорнута шырокая кампанія дзеля захавання жыцця асуджаным на смерць. Пад заклікам не расстрэльваць хлопцаў падпісаліся больш за 50 тысяч чалавек. Таксама і прадстаўнікі праваабарончай арганізацыі «Міжнародная амністыя» прывезлі ў Беларусь сотні тысяч подпісаў з заклікам спыніць выкананне расстрэльных прысудаў і ўвогуле адмяніць смяротнае пакаранне ў Беларусі. Тым не менш, кіраўнік дзяржавы адмовіўся памілаваць асуджаных (Кавалёў звяртаўся да Аляксандра Лукашэнкі з такой просьбаю, а Канавалаў — не), і ў хуткім часе ў Пішчалаўскім замку на вуліцы Валадарскага ў Мінску, дзе месціцца СІЗА МУС №1 і дзе праводзяцца ў выкананне смяротныя пакаранні, прагучалі стрэлы. 29 кастрычніка 2012 года Камітэт ААН па правах чалавека прызнаў парушэнне беларускімі ўладамі права Уладзіслава Кавалёва на жыццё.

***P.S.:** Беларусь з'яўляецца адзінай краінай на кантыненце, дзе смяротнае пакаранне не адмененае, таму ёй не знайшлося пакуль месца ў Савеце Еўропы — таксама адзінай краіне на кантыненце. Але можна асцярожна меркаваць, што ўлады ўсё ж могуць пайсці на тое, каб больш не было расстрэльных прысудаў. У 2012 годзе былі расстраляныя тры чалавекі, асуджаныя на смерць раней. Але новых смяротных прысудаў у тым годзе не выносілася. Хацелася б верыць, што сакавіцкія (2012 года) стрэлы ў Пішчалаўскім замку былі апошнімі ў гісторыі беларускага правасуддзя.*

▸ САЛІДАРНАСЦЬ

# ЛЮДЗІ ПАДТРЫМЛІВАЮЦЬ ЛЮБОЎ КАВАЛЁВУ

**Любоў Кавалёва гэтымі днямі атрымала шмат лістоў і паштовак ад тых людзей, хто, як і яна, не верыць у вінаватасць яе сына і лічыць, што судовы працэс над віцебскімі хлопцамі быў несправядлівы, а пакаранне — неапраўдана жорсткае.**



Паштоўкі і лісты прыходзяць з розных краін, сярод іх — і допісы ад міжнароднай праваабарончай арганізацыі «Amnesty International», і спачуванні ад звычайных людзей, жыхароў Беларусі і замежжа. Тыя, хто звярталіся да сям'і Кавалёвых у гэтыя дні, жадаюць моцы духу маці і сястры расстралянага Уладзіслава Кавалёва, выказваюць спадзяванне, што ў будучыні справа аб выбуху ў мінскім метро будзе разгледжана аб'ектыўна, што пакаранне панясуць сапраўды вінаватыя, а невінаватых апраўдаюць.

Маці пакаранага смерцю неаднаразова звярталася да беларускіх уладаў, каб ёй аддалі цела сына, якога яна лічыць неправамоцна абвінавачаным і беспадстаўна пакараным, або каб ёй хацця б паказалі месца, дзе ён пахаваны. Але ў адказ прыходзілі толькі адмовы са спасылкамі на палажэнне беларускага заканадаўства, згодна з якім цела расстралянага сваякам не выдаецца і месца яго апошняга спачыну назаўжды застаецца таямніцай.

Любоў Кавалёва ўпэўненая, што такое патрабаванне заканадаўства — гэта здзек і катаванні ў адносінах да сем'яў пакараных смерцю.

«Раней здзекаваліся з Улада, збівалі яго, змушаючы даць патрэбныя следчым паказанні. Цяпер катуюць мяне. Я лічу, што абавязкова трэба дамагчыся, каб мне аддалі цела сына. І каб адмянілі смяротнае пакаранне, бо яно незваротнае: нават у тым выпадку, калі з'яўляюцца доказы невінаватасці чалавека, яго ўжо не вернеш… І яшчэ так і засталася нявыкананай апошняя воля Уладзіслава: ён прасіў захаваць ягоныя запісы, што вёў падчас суду і ў СІЗА КДБ. Але жоўтую тэчку, дзе былі гэтыя паперы, пасля выканання прысуду нам даслалі пустой. І я не ведаю, хто і з якімі мэтамі хавае гэтыя запісы. Яны згінулі недзе ў нетрах турмы КДБ, які і тыя даверанасці, якія мусіла падпісаць адміністрацыя, — з імі я магла б зрабіць болей ад імя сына. Але мне гэта не дазволілі».

За змаганне супраць смяротнага пакарання ў Беларусі, за памкненне адстаяць добрае імя сына Любоў Кавалёва летась была прызнана «Праваабаронцам года»: 10 снежня 2012 года беларускія праваабарончыя арганізацыі ўганаравалі яе гэтым званнем. Паводле вынікаў галасавання на сайце «Народныя Навіны Віцебску» Любоў Кавалёва стала «Чалавекам году Віцебска–2012».

**Паводле spring96.org**

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 20 САКАВІКА, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Адзіны мой грэх».
**10.10** Серыял «Джамайка» (Расія-Украіна).
**11.05** Дакументальны серыял «Некранутая планета». 3-я і 4-я серыі, заключныя.
**12.10** Сфера інтарэсаў.
**12.30** Заўтра - гэта мы!
**13.00** Народная камедыя «Сваты-4».
**15.15, 18.40** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).
**16.40** Зямельнае пытанне.
**17.05** Медычныя таямніцы.
**17.40** Серыял «Адзіны мой грэх».
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.00** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Серыял «Джамайка» (Расія-Украіна).
**21.00** Панарама.
**22.00** Народная камедыя «Сваты-4».
**00.30** Дзень спорту.
**00.45** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.20** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Шматсер. фільм «Гандлёвы цэнтр».
**12.05** «Добрага здароўейка!».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Модны прысуд».
**14.10** Прэм'ера. «Пакуль яшчэ не позна».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. Шматсер. фільм «Жураў».
**23.20** «Вячэрні Ургант».
**00.00** Асяроддзе пасялення.
**01.00** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Гадзіна суда».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Мінск і мінчане».
**13.50** Фільм «Фантоцы бярэ рэванш». Італія, 1990 г.
**15.30** «Жывая тэма».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Долтры Кэлхун». ЗША, 2005 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.55** «Дабро пажаліцца».
**00.15** «Кулінар». Серыял.
**01.10** «Нам і не снілася».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Пацалунак Сакрата» (Беларусь).
**10.15** Наперад у мінулае.
**10.55** Дак. серыял «Самабытныя культуры» (Чэхія - Вялікабрытанія). Закл. серыя.
**11.35** Камедыя «Асаблівасці нацыянальнага палявання» (Расія).
**13.30** Камедыйны серыял «Нябесныя сваякі» (Украіна). 3-я і 4-я серыі.
**15.35** Дэтэктыў «Жураў -2» (Расія).
**16.45** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Камедыйны серыял «Нябесныя сваякі» (Украіна). 5-я і 6-я серыі.
**20.45** Пад грыфам «Вядомыя».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Дэтэктыў «Жураў -2» (Расія).
**22.40** Камедыя «Асаблівасці нацыянальнай рыбалкі» (Расія).
**00.25** Дак. серыял «Самабытныя культуры» (Чэхія - Вялікабрытанія). Закл. серыя.

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Каменская».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «У лясах і гарах».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Цыганачка з выйсцем».
**21.30** Серыял «Вераніка. Уцякачка».
**23.20** Навіны - Беларусь.
**23.30** «Чужыя таямніцы. Поры года».
**00.10** «К-19». Негалівудская гісторыя».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Следства вялі..».
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Муж і жонка».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Вострасюжэтны серыял «Настаўнік у законе. Вяртанне».
**21.15** Дэтэктыўны серыял «Таптуны».
**23.00** Сёння. Вынікі.
**23.25** Вострасюжэтны серыял «Участковы».

### МИР

**05.00** Серыял «Агонь кахання».
**05.50** Мультсерыял «Робін Гуд».
**06.20** «Цік-так».
**06.50** «Джэймі ў сябе дома».
**07.20** Серыял «Сэрцу не загадаеш».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Дынастыя».
**10.00** Маст.фільм «Прабач».
**11.30** «Незорнае дзяцінства».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.25** Серыял «Пяць хвілін да метро».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Серыял «Заручальны пярсцёнак».
**17.00** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.30** «Акцэнты».
**18.45** Серыял «Закон і парадак».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.25** «Сакрэтныя матэрыялы».
**21.55** «З нагоды. Шлях мяса».
**22.45** Ток-шоў «Слова за слова».
**23.35** Серыял «Дзяржаўная мяжа».
**00.55** «Дынастыя».
**01.45** Серыял «Закон і парадак».
**03.40** «З нагоды. Шлях мяса».
**04.25** «Сакрэтныя матэрыялы».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**09.00** Аб'ектыў.
**09.25, 14.15** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.45** На колах.
**10.10** «Доктар Марцін», серыял: 11 серыя.
**11.00** Форум (ток-шоу).
**11.50** Студыя «Белсат».
**13.20** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**13.50** Аб'ектыў.
**14.35** На колах.
**15.00** «Доктар Марцін», серыял: 11 серыя.
**15.50** Форум (ток-шоу).
**16.40** «Час гонару», серыял: 15 серыя.
**17.30** Асабісты капітал.
**17.50** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**18.00** Праект «Будучыня».
**18.30** Беларусы ў Польшчы.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Сальда.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень (інфармацыйнае падсумаванне дня).
**21.45** «Ночы і дні», серыял: 5 серыя.
**22.45** Два на два (тэледыскусія).
**23.10** Невядомая Беларусь: «Страх у краіне спакою», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**23.55** Студыя «Белсат».
**01.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**01.50** Аб'ектыў.
**02.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**02.35** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 21 САКАВІКА, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Адзіны мой грэх» (Расія-Украіна).
**10.10** Серыял «Джамайка» (Расія-Украіна).
**11.00** Дакументальны серыял «Усе грані вар'яцтва» (Германія). 1-я і 2-я серыі.
**12.10** Актуальнае інтэрв'ю.
**12.30** Сфера інтарэсаў.
**12.45** Нашы.
**12.55** Народная камедыя «Сваты-4».
**15.15, 18.40** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).
**16.40** Каробка перадач.
**17.10** Дыялогі пра цывілізацыю.
**17.40** Меладраматычны серыял «Адзіны мой грэх» (Расія-Украіна). Закл. серыя.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.55** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**21.00** Панарама.
**22.00** Народная камедыя «Сваты-4».
**00.30** Дзень спорт.
**00.40** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.20** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Гандлёвы цэнтр».
**12.05** «Добрага здароўейка!».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Модны прысуд».
**14.10** Прэм'ера. «Пакуль яшчэ не позна».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Жураў».
**23.20** Вострасюжэтны фільм «Шакал».
**01.40** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Не хлусі мне!».
**10.05** «Дабро пажаліцца».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.50** Фільм «Долтры Кэлхун». ЗША, 2005 г.
**15.40** «Якія людзі!».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «М+Ж». Расія, 2009 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман. Выкрыццё».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Кулінар». Серыял.
**01.05** «Нам і не снілася».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Пацалунак Сакрата» (Беларусь).
**10.15** Вышэй за дах.
**10.55** «Дарунак». Дакументальны фільм.
**11.45** Камедыя «Асаблівасці нацыянальнай рыбалкі» (Расія).
**13.40** Камедыйны серыял «Нябесныя сваякі» (Украіна). 5-я і 6-я серыі.
**15.35** Дэтэктыў «Жураў -2» (Расія).
**16.45** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Камедыйны серыял «Нябесныя сваякі» (Украіна). 7-я і 8-я, заключная, серыі.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Дэтэктыў «Жураў -2» (Расія).
**22.40** Час футболу.
**23.25** Камедыя «Асаблівасці нацыянальнай палітыкі» (Расія).

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Мая планета».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Каменская».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «У лясах і гарах».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Зроблена ў СССР».
**21.30** Серыял «Вераніка. Уцякачка».
**23.20** Навіны - Беларусь.
**23.30** «Чужыя таямніцы. Поры года».
**00.10** «Паядынак».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Крамлёўскія пахаванні».
**11.10** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Муж і жонка».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Вострасюжэтны серыял «Настаўнік у законе. Вяртанне».
**21.15** Дэтэктыўны серыял «Таптуны».
**23.00** Сёння. Вынікі.
**23.25** Вострасюжэтны серыял «Участковы».

### МИР

**05.00** Серыял «Агонь кахання».
**05.50** Мультсерыял «Робін Гуд».
**06.20** «Цік-так».
**06.50** «Джэймі ў сябе дома».
**07.20** Серыял «Сэрцу не загадаеш».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Двое».
**10.00** Маст.фільм «Баламут».
**11.30** «Наўруз».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.25** «Дыяспары».
**12.50** Маст.фільм «Тата».
**14.45** «Кыргызтан у асобах».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.25** Серыял «Заручальны пярсцёнак».
**17.00** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.30** «Акцэнты».
**18.45** Серыял «Закон і парадак».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.25** «Беларусь сёння».
**21.55** Дак.фільм «Зоркі ў пошуках веры».
**22.45** Ток-шоў «Слова за слова».
**23.35** Серыял «Дзяржаўная мяжа».
**00.55** «Двое».
**01.45** Серыял «Закон і парадак».
**03.35** «Цюркі Расіі».
**04.30** «Беларусь сёння».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.40** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** «Ночы і дні», серыял: 5 серыя.
**11.05** Невядомая Беларусь: «Страх у краіне спакою», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**11.50** Студыя «Белсат».
**13.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**13.50** Аб'ектыў.
**14.15** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**14.35** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.05** «Ночы і дні», серыял: 5 серыя.
**16.00** Невядомая Беларусь: «Страх у краіне спакою», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**16.50** «Час гонару», серыял: 16 серыя.
**17.40** Маю права (юрыдычная праграма).
**18.05** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.30** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Аблавушак».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Сальда.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень (інфармацыйнае падсумаванне дня).
**21.45** «Каханне ля поплаву», тэлесерыял: 12 серыя.
**22.35** «Кім Чэн Ір: засакрэчаная біяграфія», дак. фільм, 2010 г., Японія–Францыя.
**23.25** Студыя «Белсат».
**01.00** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**01.25** Аб'ектыў.
**01.50** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**02.10** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 24 САКАВІКА, НЯДЗЕЛЯ

**Беларусь 1**

**07.10** Фільм «Дэжа вю» (СССР-Польшча).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Нашы.
**09.50** Камедыйны серыял «Суседзі».
**10.55** Медычныя таямніцы.
**11.25** Кулінарная дыпламатыя.
**12.10** Лірычная драма «Восеньскі марафон».
**14.00** Eurovision. Вынікі тыдня.
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Заўтра - гэта мы!
**16.05** Культурныя людзі +.
**16.40** «Месца сустрэчы». Музычна-забаўляльная праграма.
**17.40** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**18.40** Меладрама «Блізка да сэрца» (ЗША).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналіцкае расследаванне.
**22.30** Камедыя «Бар «Гадкі каёт» (ЗША).
**00.15** Камедыйны серыял «Суседзі».

**ОНТ**

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** Мультфільм.
**09.30** «Шалапутныя нататкі».
**09.50** Пакуль усе дома.
**10.45** Фазэнда.
**11.20** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**12.20** Прэм'ера. «Аляксандр Міта. Заўсёды пра каханне».
**13.20** Фільм «Гары, гары, мая зорка».
**15.00** «Яўген Лявонаў. Страх адзіноты».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. Асяроддзе пасялення.
**17.20** Прэм'ера. «Форт Баярд».
**18.50** «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** Прэм'ера. Фільм «Кококо».
**22.50** Фільм «Крывавы дыямент».

**СТВ**

**06.20** «Салдаты. Дзембель непазбежны». Серыял.
**08.00** Фільм «Вавілон н.э.» ЗША-Францыя-Вялікабрытанія, 2008 г.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Вялікі сняданак».
**11.10** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман. Выкрыццё».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Забытая мелодыя для флейты». СССР, 1987 г.
**15.05** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** «Уявіце сабе».
**17.50** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень».
**20.40** Фільм «Даміно». Францыя-ЗША-Вялікабрытанія, 2005 г.
**22.55** Прэм'ера. «Пякельная кухня - 2».
**00.15** Прафесійны бокс.
**01.15** Фільм «Удалечыні ад яе». Канада-Вялікабрытанія-ЗША, 2006 г.
**03.00** «Дурні, дарогі, грошы».

**Беларусь 2**

**07.50** Таямніца душы.
**08.20** Вестэрн «Чалавек з бульвара Капуцынаў» (СССР).
**10.15** Пазакласная гадзіна.
**10.35** Тэлебарометр.
**10.40** Альбарутэнія.
**11.15** Пра мастацтва.
**11.45** Камедыйны баявік «Карсіканец» (Францыя).
**13.40** Меладрама «Жорсткі раманс» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**16.25** Футбол. Чэмпіянат свету-2014.
**16.55** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ. Прамая трансляцыя.
**18.45** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**19.15** Суперлато.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Спорт-кадр.
**21.55** Фантастычны баявік «Зорны дэсант» (ЗША).
**00.15** Камедыйны баявік «Карсіканец».

**РОССИЯ**

**07.00** Фільм «Адзін на ўсіх» (2013 г.).
**10.15** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.20** Фільм «Асабістая справа суддзі Івановай».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Чорныя дзюры. Белыя плямы».
**15.05** «Гарадок». Дайджэст.
**16.05** Тэлесерыял «Сваты».
**18.05** Фільм «Маладыя» (2012 г.).
**20.00** Весткі тыдня.
**21.25** «Фактар А».
**23.20** «Нядзельны вечар».

**НТВ**

**06.30** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**10.50** «Дачны адказ».
**11.55** «Паедзем, паямо!».
**12.25** «Цуд тэхнікі».
**13.00** Сёння.
**13.25** Дэтэктыўны серыял «Порах і дроб».
**16.55** Выратавальнікі.
**17.25** «Вочная стаўка».
**18.25** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.55** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**20.35** «Цэнтральнае тэлебачанне».
**21.35** Баявік «Марскія д'яблы».
**23.10** «Жалезныя лэдзі».
**00.00** Камедыя «Забі мяне! Ну, калі ласка».
**01.40** «Школа зласлоўя». Ток-шоў.

**МИР**

**05.00** Дак. фільм «Адна гадзіна ў Эрмітажы».
**05.55** Маст.фільм.
**07.35** «Мільён пытанняў пра прыроду».
**08.00** Мультсерыял «Смешарыкі».
**08.05** «Ведаем рускую».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.05** «Даведнік».
**09.30** «Ежа».
**10.10** «Незорнае дзяцінства».
**10.40** Маст. фільм «Давай вернемся: Вяртанне дахаты».
**13.35** «Практычная магія».
**14.25** Серыял «У свеце каменных джунгляў».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**15.50** Серыял «Суд».
**20.00** «Разам».
**21.00** Серыял «Суд».
**21.50** Маст. фільм «Скала Малхоланд».
**23.50** Маст. фільм «Давай вернемся: Вяртанне дахаты».
**02.45** Маст. фільм.
**04.25** «Даведнік».

**БЕЛСАТ tv**

**07.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**07.15** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Мядзведзікі», «Нодзі ў краіне цацак».
**07.40** «Калі сэрца ў чаканні», серыял.
**08.05** Беларусы ў Польшчы.
**08.25** Зона «Свабоды».
**08.55** Еўропа сёння.
**09.20** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**09.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**09.50** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.15** Без межаў (міжнародны грамадскі тэлечасопіс).
**10.30** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**11.00** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**11.20** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**11.25** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**11.40** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Мядзведзікі», «Прыгоды і паходы».
**12.05** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 12 серыя.
**12.30** «Час гонару», серыял: 16 серыя.
**13.20** «Ночы і дні», серыял: 5 серыя.
**14.15** «Малыя здабыўцы», дак. фільм, 2009 г., Германія.
**15.00** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**15.15** МакраФон: XIV Фестываль песеннай паэзіі і аўтарскай песні «Бардаўская восень–2007»: выступ Касі Камоцкай.
**15.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**16.00** «Райская яблыня», маст. фільм, 1985 г., Польшча.
**17.45** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.15** Невядомая Беларусь: «Далёка нам яшчэ да БНР», дак. фільм, 2007 г., Беларусь.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**19.00** «Сенсацыі XX стагоддзя», серыял: «Смерць маршала».
**19.50** Дакументальная гадзіна: «Генерал нясконччанай вайны», дак. фільм, 2009 г., Беларусь: ч. 1.
**20.25** Дакументальная гадзіна: «Генерал нясконччанай вайны», дак. фільм, 2009 г., Беларусь: ч. 2.
**21.00** Аб'ектыў (спецыяльнае выданне).
**21.05** Два на два (тэледыскусія).
**21.30** Эксперт (сатырычная праграма).
**22.00** Форум, з архіву праграмы.
**22.50** Фільматэка майстроў: «Братка», маст. фільм, 2007 г., Польшча.
**00.30** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): вып. 23.
**00.55** Два на два (тэледыскусія).
**01.20** Жаўтуха (сатырычная праграма).

---



БЕЛПОЧТА
ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)
ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐
(сумма цифрами) (сумма прописью)
ПОЛУЧАТЕЛЬ ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926
КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)
ОТПРАВИТЕЛЬ ______
почтовый код, адрес отправителя, телефон)
АДРЕС ______
Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное
(назначение платежа)
(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ
ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)
Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926
(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик
Пеня ______
Кассир Всего ______

АНАЛІЗ

# ВЕНЕСУЭЛА БЕЗ ЧАВЕСА

Алег НОВІКАЎ

**Смерць камандантэ Уга Чавеса ставіць пад пытанне існаванне створанай ім венесуэльскай мадэлі, якая цалкам была завязаная на персоне нябожчыка.**



Куды пойдзе Венесуэла пасля Чавеса? На першы погляд, пытанне дастаткова дзіўнае. Хаця б таму, што ў апошнія гады мясцовыя ўлады шмат увагі надавалі ідэалагічнаму каркасу рэжыму — баліварыянскай тэорыі. Прорва грошай была выдзеленая на працу экспертных груп, якія ламалі галовы над канцэпцыяй сацыялізму XXI стагоддзя, базісам якой была спадчына Сімона Балівара.

Аднак у сур'ёзных палітолагаў спробы сінтэзу новага дыямату на базе запаветаў Балівара заўсёды выклікалі іранічную ўсмешку. Балівар, які вызваліў Венесуэлу ад іспанскіх каланізатараў, быў вельмі супярэчлівай фігурай, а тым больш для сацыялістаў. Кумір Чавеса да канца жыцця так і не выйшаў за рамкі каставых інтарэсаў крэольскай эліты (гэта цалкам зразумела з прычыны нізкага ўзроўню развіцця капіталізму ў тагачаснай Лацінскай Амерыцы), за што, дарэчы, стаў аб'ектам крытыкі з боку Карла Маркса. Акрамя таго, Балівар, або, як яго называлі, «вызваліцель», калі яму было трэба, ахвотна фліртаваў з ненавіснымі Чавесу янкі. Напрыклад, вітаў прыняцце ў Злучаных Штатах дактрыны Манро, якая стала прыкрыццём для далучэння да ЗША больш за палову тэрыторыі тагачаснай Мексікі.

Праўда, электарат ніколі не звяртаў увагі на такія парадоксы, паколькі сам Чавес лічыўся ледзь не новым Баліварам. Не дарма, хаця афіцыйная ідэалогія і называлася баліварыянскай, часцей яе называлі Chavismo. Самае цікавае, што ніякіх сур'ёзных тэарэтычных распрацовак Чавес пры жыцці не зрабіў. Усё, што мы маем з яго асабістай спадчыны, гэта кліпы на YouTube, дзе Уга чытае рэвалюцыйныя мантры або распінае ворагаў. Аказваецца (і ў гэтым згодныя шматлікія палітолагі), гэтыя шоў, у якіх камандантэ быў адначасова і госцем, і мадэратарам, з'яўляліся адным з галоўных механізмаў падтрымання стабільнасці сістэмы.

У пераемніка Чавеса Нікаласа Мадуры такой прыцягальнай аўры і таленту шоўмэна няма. Як ён будзе трымаць і мабілізоўваць у выпадку неабходнасці ўвесь стракаты электарат Чавеса, не зразумела. Акрамя таго, Нікаласу патрэбна не дапусціць росту фракцыянізму ўнутры непасрэдна баліварскага лагера. Так, брытанскі часопіс «Economist» гатовы пайсці ў заклад, што канфрантацыя Мадуры і парламенцкага спікера Дзіясдада Кабела, які служыў у войску разам з Чавесам, непазбежная. Выданне таксама лічыць, што толькі аўтарытэт Фідэля Кастра можа ўтрымаць адзінства баліварцаў. Той факт, што для кубінскага рэжыму венесуэльская эканамічная дапамога — пытанне жыцця і смерці, каласальна ўздымае стаўкі ў гульні за будучыню Венесуэлы.

Праўда, пакуль Мадура хутчэй дэманструе трукі з рэпертуару папярэдніка — пасля смерці Чавеса ён выслаў вайсковага аташэ ЗША, а раней увогуле зваліў на спецслужбы хваробу прэзідэнта. Аднак усе ўпэўненыя: другога такога артыста, як Уга, сярод венесуэльскіх чыноўнікаў не знайсці, а сам Мадура гэту ролю не пацягне. Недарма ён не трапіў у топ кандыдатаў у конкурсе французскага часопіса «Le Point» «Хто будзе новым Чэ Геварам сярод лацінаамерыканскіх палітыкаў пасля смерці Чавеса». Амерыканскі часопіс «The Nation» цытуе аднаго з супрацоўнікаў венесуэльскага ўрадавага апарату: «Мадура ведаў, як інтэрпрэтаваць пажаданні Чавеса. Ён выдатны аператар і выканаўца, але яму не хапае практыкі, якім чынам замацаваць свае ўласныя пазіцыі і сваім аўтарытэтам павесці мадэль Chavismo ў новую, больш прагматычную эпоху».

На думку аналітыкаў, не маючы вопыту сталай і прамой камунікацыі з масамі, новая адміністрацыя ў Каракасе бліжэйшым часам можа спрабаваць цэментаваць электарат Чавеса за кошт новых сацыяльных праграм. Аднак, як сведчыць статыстыка кастрычніцкіх прэзідэнцкіх выбараў, калі Чавес атрымаў толькі сціплых 55 працэнтаў, памяць у народа, для якога Уга сапраўды зрабіў шмат дабра, кароткая. У сваю чаргу, апазіцыя пры новым лідары Энрыке Капрылесе імкліва «сацыялдэмакратызуецца»: сцвярджае, што зможа больш эфектыўна падтрымліваць працу рознага кшталту місій (так Чавес называў свае сацыяльныя праграмы), і нават развіваць іх без цяперашняй залішняй бюракратызацыі.

У гэтым плане зразумела адно. У якім бы накірунку ні пайшла Венесуэла пасля Чавеса, палітычны ландшафт дзякуючы яму цалкам змяніўся: ніводны з сур'ёзных палітыкаў цяпер не зможа ігнараваць інтарэсы незаможных людзей, якія вельмі палітызаваліся пры папярэднім прэзідэнце.

Акрамя таго, сацыяльна-эканамічная сітуацыя абмяжоўвае магчымасці Мадуры. Інфляцыя ў краіне штогод складае 30 працэнтаў. За апошнія дзесяцігоддзе краіна перажыла чатыры дэвальвацыі (апошняя мела месца ў лютым). Бюджэтны дэфіцыт роўны 20 працэнтам. Самае цікавае, што нафты ў Венесуэле здабываецца на душу насельніцтва больш, чым у Саудаўскай Аравіі.

Калі прадказаць унураную палітыку новай адміністрацыі цяжка, дык на міжнароднай арэне амаль усе аналітыкі чакаюць меншай актыўнасці Каракаса. Гэта звязваюць перш за ўсё са слабымі вынікамі дыпламатычных дасягненняў Уга Чавеса.

**Сацыяльна-эканамічная сітуацыя абмяжоўвае магчымасці Мадуры. Інфляцыя ў краіне штогод складае 30 працэнтаў. Краіна перажыла чатыры дэвальвацыі**



Усе аддаюць Уга належнае: як першы пасля развалу СССР у свеце палітык, які сказаў забароннае слова «сацыялізм», ён абвясціў старт так званага «левага павароту» ў Лацінскай Амерыцы. На цяперашні дзень на кантыненце правыя засталіся пры ўладзе ў буйных краінах хіба толькі ў Калумбіі. Аднак маніякальная ўстаноўка Чавеса бачыць свет у выключна бела-чорных фарбах, антысеміцкія забабоны і пацалункі з парыямі, накшталт Махмуда Ахмадзінежада, палярызавалі лацінаамерыканскіх левых у стаўленні да Уга. Таму яшчэ ў 2006 годзе правалілася амбіцыйная ідэя Уга выбіць для адной з краін Лацінскай Амерыкі месца ў Савеце бяспекі ААН. Паколькі ён цягнуў коўдру на сябе, шмат хто з мясцовых левых урадаў перапужаўся з'яўлення ў самым высокім органе ААН такога прадстаўніка Лацінскай Амерыкі, і праект папросту спусцілі на тармазах.

Таксама ляснуўся рэгіянальны інтэграцыйны праект «Баліварыянскі альянс» (ALBA), у які з тых жа агучаных вышэй прычын з лацінаамерыканскіх краін падпісаліся толькі Балівія, Эквадор, Куба і Нікарагуа. Апошняя пачала падтрымліваць ALBA толькі пасля пачатку паставак таннай венесуэльскай нафты. Сімвалічны ўплыў мае і міждзяржаўны інфармацыйны праект «Telesur», які быў задуманы ў Каракасе як альтэрнатыва папулярным іспанамоўным каналам, размешчаным у Злучаных Штатах. Таксама ніхто не разумее, як будзе існаваць без Чавеса арганізацыя UNASUR — аб'ядананне лацінаамерыканскіх краін, заснаванае як альтэрнатыва створанай па ініцыятыве ЗША Арганізацыі Амерыканскіх Дзяржаваў.

Аднак, хутчэй за ўсё, глабальныя пытанні будуць адкладзеныя да заканчэння красавіцкіх выбараў прэзідэнта. Большасць экспертаў прагназуюць Нікаласу Мадуру дастаткова лёгкую перамогу, паколькі, як выказаўся адзін з журналістаў, «цела яшчэ не астыла». Аднак усё сведчыць пра тое, што гэта будзе апошняя лёгкая перамога ўрадавай партыі, якой давядзецца навучыцца жыць без харызмы Уга.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Верагодна, беларускія сябры ўжо 100 разоў пашкадавалі, што здарыўся казус з растаральнікамі. У чэрвені 2012 года братоў-славян злавілі на схеме сыходу ад выплаты пошліны пры экспарце расійскіх нафтапрадуктаў за межы Мытнага саюза. Але з Расіяй у цяперашнія часы жартаваць нельга. На думку расійскіх экспертаў, шкода, нанесеная бюджэту РФ, складае 1,5 мільярда долараў ЗША, якія Расія патрабуе кампенсаваць. А дзе ў Беларусі такія грошы?

**«Нафтагаз» (Расія)**

З сыходам сябра Лукашэнкі Уга Чавеса Беларусь будзе ўсяго толькі адной з многіх краін, з якімі супрацоўнічае Каракас. У агульным аб'ёме знешняга гандлю тавараабарот з Венесуэлай не перавышае і 2 адсоткаў. Афіцыйны Мінск працягвае пошук новых саюзнікаў у Лацінскай Амерыцы. Пра гэта сведчаць кантракты ў ваеннай сферы і па здабычы нафты, падпісаныя раней з Эквадорам. Паведамляецца таксама, што і цяпер, у дні знаходжання ў Каракасе, прэзідэнт Беларусі правёў перамовы з кіраўнікамі Гаіці, Кубы і Балівіі аб перспектывах і магчымасцях супрацоўніцтва. Пры гэтым стасункі з краінамі Лацінскай Амерыкі на фоне рознагалоссяў з Еўропай і ЗША Мінск па-ранейшаму будзе выкарыстоўваць як прапагандысцкі сімвал знешнеэканамічнай дзейнасці кіраўніцтва, неўязнога ў заходнія краіны. На самай жа справе галоўныя інтарэсы дзяржавы Беларусь, і не толькі гандлёвыя, застаюцца на еўрапейскім кантыненце — у Расіі і Еўрасаюзе.

**«Deutche Welle» (Германія)**

27 лютага на пасяджэнні ўкраінскага ўрада прынятая «Дзяржаўная праграма актывізацыі развіцця эканомікі на 2013–2014 гады». Прыярытэты эканамічнай палітыкі сведчаць пра тое, што «рэфарматары» збіраюцца весці краіну па шляху кансервацыі і нават рэстаўрацыі структуры эканомікі савецкага ўзору і штучна падтрымліваць яе жыццяздольнасць па беларускіх лякалах. Мы маем справу з прыкладам логікі эканамічнай палітыкі, якой вось ужо амаль два дзесяцігоддзі кіруецца беларускі прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Такі падыход дае магчымасць утрымліваць параўнальна высокі «валавы выпуск» на атрыманых у спадчыну ад савецкага мінулага магутнасцях, аднак пры гэтым толькі пагаршаецца праблема неканкурэнтаздольнасці эканомікі.

**«Тиждень» (Украіна)**

Пакуль Лукашэнка будзе ва ўладзе, адносіны з ім патрабуюць паліткарэктнасці. Старанні па паляпшэнні адносін выклікаюць крытыку ў Літве і за мяжой. Грыбаўскайтэ падпала рэзкай крытыцы пасля сваёй неафіцыйнай сустрэчы з Лукашэнкам у Вільні, і калі яна ў 2010 годзе адправілася ў Мінск напярэдадні выбараў у Беларусі. Любое паслабленне выклікае папрокі, Літву могуць абвінавачваць у падтрымцы дыктатуры, абыякавасці да дэмакратыі і правоў чалавека. Кіраўнік адной з амерыканскіх няўрадавых арганізацый прапанаваў на сустрэчу Усходняга партнёрства на вышэйшым узроўні запрасіць у Вільнюс прадстаўнікоў апазіцыі, а не беларускіх уладаў.

**«Обзор» (Літва)**

Небывалай раней актыўнасцю вызначыўся (у Латвіі) Камітэт дзяржаўнай бяспекі Беларусі. У Латвіі беларуская дыяспара невялікая — прыкладна сто тысяч чалавек. А Беларусь засяляе 10 мільёнаў чалавек. На гэтым фоне нашы сто тысяч — усяго толькі дробязь. Аднак варта ўлічваць, што балансуючую на мяжы банкруцтва «вотчыну» Аляксандра Лукашэнкі пакінулі больш за 900 тысяч чалавек працаздольнага ўзросту. З'ехалі працаваць у Расію, таму што там плацяць больш. Добраахвотна дадому не едуць, магчымасці рэпрэсій моцна абмяжоўваюць перамяшчэнні. Да таго ж, і Беларусь, і Расія ўваходзяць у Мытны саюз. У такой сітуацыі важна кожнае «цёплае слова», якое гучыць з-за мяжы, і па магчымасці трэба весці барацьбу з любым выказаным у асяроддзі суайчыннікаў крытычным меркаваннем.

**«IR» (Латвія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. ТАТАРЫ ПРОСЯЦЦА ДА НАЗАРБАЕВА

У прэсу пратачылася цікавая інфармацыя, якая тычыцца рэакцыі татарскіх і башкірскіх нацыянальна-культурных арганізацый на нядаўнюю прамову Нурсултана Назарбаева наконт неабходнасці стварыць цюркскае міждзяржаўнае фармаванне Цюркскі Саюз. З улікам таго, што адначасова Астана стварае Еўразійскі Саюз з Мінскам і Масквой, асаблівай увагі цюркская ініцыятыва не атрымала. Аднак яе чамусьці ўсур'ёз успрынялі актывісты татарскага руху ў Расіі. Зараз яны бамбяць адміністрацыю Назарбаева лістамі, у якіх нагадваюць, што цюркі таксама жывуць у Расіі і, адпаведна, маюць права далучыцца да Цюркскага Саюза. Увогуле, на іх думку, Цюркскі Саюз павінен працягнуцца ад Паўночнага Ледавітага акіяна (Якуція) да Міжземнага мора (Турцыя). Аднак самым арыгінальным ходам стала рашэнне некаторых арганізацый, накшталт Татарскага грамадскага цэнтра Башкірыі, папрасіць Назарбаева прыняць іх арганізацыю ў Цюркскі саюз у якасці асацыяванага сябра.

**Паводле расійскай прэсы**

### УКРАІНА. АТРАДЫ АХОВЫ ПОМНІКАЎ ПАЛЮЮЦЬ НА ВАНДАЛАЎ

Вайна з помнікамі ва Украіне выйшла на новы якасны ўзровень. Пасля таго, як у адказ на атакі на помнікі Леніна на Усходзе зафіксаваныя напады на мемарыяльныя аб'екты ў гонар Бандэры на Захадзе, тутэйшыя вырашылі заснаваць атрады абароны помнікаў. У Івана-Франкоўску адбыліся зборы ініцыятывы «Народнае вока», якае бярэ на сябе задачу аховы помнікаў у Заходняй Украіне. Цікава, што «Народнае вока» збіраецца не толькі абараняць помнікі і мемарыяльныя таблічкі, аднак і аўтаномна праводзіць пошукі вандалаў, каб іх пакараць. Як гаворыцца ў «маніфесце» групоўкі: «Народнае павінен ахоўваць народ! Таму ніхто са шчырых украінцаў не верыць, што нашы органы знойдуць і пакараюць вандалаў-выканаўцаў, а тым больш — заказчыкаў гэтага здзеку з герояў Галічыны».

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. СТВАРАЕЦЦА ПАРТЫЯ ЕЎРАСКЕПТЫКАЎ

Прыхільнікі выхаду Германіі з зоны еўра намагаюцца паспець сфармаваць да прызначаных на верасень выбараў у Бундэстаг сваю партыю. Партыю плануецца назваць «Альтэрнатыва для Германіі», яе заснавальнікамі выступілі грамадзянскія арганізацыі папулісцкага накірунку. Цяпер ідзе актыўная падрыхтоўка да ўстаноўчага з'езду, на якім плануецца аформіць усё неабходнае для рэгістрацыі, і ў тым ліку прыняць праграму. Галоўны лозунг нямецкіх еўраскептыкаў — выхад Германіі з еўрапейскага валютнага саюза і вяртанне нямецкай маркі. Хапае таксама патрабаванняў супраць нелегалаў і сэксуальных меншасцяў. Гэта не першая спроба стварыць нейкую салідную групу, больш правую за хрысціянскіх дэмакратаў, якія дамінуюць на нямецкім правым флангу. Аднак мінулыя праекты аказаліся маргінальнымі. Зараз крызіс, быццам, стварыў электаральны гумус для нараджэння такой партыі, аднак цяжка сказаць, што атрымаецца ў выніку. Перспектывы шмат у чым будуць залежаць ад таго, ці падтрымае «Альтэрнатыву для Германіі» папулярны ў ФРГ рух «Вольныя выбаршчыкі», які аб'ядноўвае рознага кшталту камунальныя грамадзянскія ініцыятывы, што, як правіла, мабілізуюцца падчас выбараў. Апошнім часам гэты рух перажывае крызіс ідэнтычнасці і, на думку палітолагаў, мог бы стварыць базу для партструктур «Альтэрнатывы для Германіі». З іншага боку, прыходзіць інфармацыя, што паўсюль, акрамя Баварыі, «Вольныя выбаршчыкі» трымаюць дыстанцыю ад аргкамітэта новай партыі.

**Паводле нямецкай прэсы**

### РАСІЯ. НЕ ЎСЕ МОГУЦЬ БРАЦЬ УДЗЕЛ У КОНКУРСАХ ПРЫГАЖОСЦІ



Цікавай аказалася рэакцыя мусульманскай грамадскасці былога СССР на перамогу на конкурсе «Міс Расія–2013» Эльміры Абдразакавай — этнічнай татаркі з Кузбасу. Як вядома, гэта перамога стала шокам для рускіх нацыяналістаў. Яны так дасталі Эльміру ў сацыяльных сетках, што тая зачыніла свой акаўнт. Варта таксама адзначыць, што раней татарка ўжо была першай прыгажуняй РФ, аднак гэты факт не палітызаваўся, што, відавочна, сведчыць пра рост нацыяналістычных настрояў сярод рускіх. Пакуль рускія нацыяналісты не знаходзяць сабе месца, татарскія, наадварот, святкуюць перамогу, разглядаючы поспех як праяву нацыянальнай перавагі. Так, татарскі нацыяналістычны рэсурс «Трыбуна» апублікаваў спіс усіх расійскіх конкурсаў, на якіх перамаглі татарскія дзяўчыны. Аднак сярод татар, дзе апошнім часам назіраецца рост ісламскіх настрояў, ёсць і іншыя думкі. Так, паводле жоўтай прэсы, пасля конкурсу жаніх Эльміры разарваў з ёй адносіны. Некаторыя ісламскія групоўкі ўвогуле выступілі з ініцыятывай забароны дзяўчатам з мусульманскіх рэгіёнаў РФ быць рознага кшталту «міс». У гэтым плане варта ўзгадаць, што год таму з такой ініцыятывай выступіў адзін з дэпутатаў парламента Казахстана.

**Паводле расійскай прэсы**

▸ ПАЛІТЭКАНОМІКА

# ВАЛЮТНЫ КРЫЗІС ПА-ЎЗБЕКСКУ

*Алег НОВІКАЎ*

**Тое, што адбываецца ва Узбекістане пасля забароны продажу наяўнай валюты, вельмі нагадвае беларускія будні 2011 года.**



Перш за ўсё, трэба адзначыць, што ва Узбекістане існуюць адразу тры паралельных курсы сума (мясцовая валюта): афіцыйны, які ўсталёўваецца Цэнтральным банкам Узбекістана; курс абменных пунктаў ад камерцыйных банкаў, адрозны ад афіцыйнага на 1–2 працэнты, і курс «чорнага рынку», дзе з раніцы да вечара можна набыць-прадаць усе асноўныя віды валют, нягледзячы на тое, што незаконныя валютныя аперацыі ў краіне лічацца крымінальным злачынствам і за гэта можна атрымаць некалькі гадоў зняволення.

Новы закон, які пабачыў свет 1 лютага, зрабіў патэнцыйнымі зэкамі яшчэ больш узбекаў. Цяпер фізічным асобам — рэзідэнтам краіны дазволена мець валюту толькі ў безнаяўнай форме шляхам залічэння на міжнародную пластыкавую карту VISA International або MasterCard. Аднак гэтыя правілы не распаўсюджваюцца на пераводы ў валюце з-за мяжы. Ты можаш набыць і пакласці на картку да 5 тысяч долараў з умовай, што не будзеш здымаць штодня больш за 100 долараў. Зроблена гэта, безумоўна, «дзеля развіцця айчыннага бізнэсу і знішчэння валютнай мафіі на чорным рынку».

Што з гэтага атрымалася? Папершае, новы ажыятаж вакол валюты. Курс долара адносна сума рэзка пайшоў уверх і вырас амаль на 10 адсоткаў ад свайго ранейшага параўнальна стабільнага курсу на чорным рынку.

Вось як апісвае сітуацыю ў банках адзін са сведкаў: «Літаральна некалькі дзён таму я хацеў купіць 200 долараў. Я зайшоў у банк, а там чарга, як у маскоўскім метро. І стаяць толькі свае падстаўныя людзі. А гэта значыць, што ніхто не дасць табе купіць замежную валюту, таму што ўсе валютчыкі стаяць, як у засадзе, і ахоўваюць кожны свой банк (груба кажучы, у кожнага свая кропка). У канчатковым выніку мне прыгразілі, каб я лепш не суную́ся туды толькі таму, што ў любым выпадку я сёння не куплю нічога. І так у кожным банку Ташкента».

Валютная мафія, мяркуючы па ўсім, ва Узбекістане дасць форы ўсім. Адзін з блогераў лічыць, што калі б валютчыкаў адпраўлялі ў Афганістан, з талібамі б ужо даўно расправіліся.

Аднак самае вясёлае пачынаецца, калі ўзбек выязджае за мяжу. Вось што піша адзін з каментатараў. «Карткі VISA International і MasterCard, атрыманыя ў банках Узбекістана, у большасці дзяржаў не абслугоўваюцца. Праблема ў тым, што ўсе плацяжы па гэтых міжнародных картах праводзяцца праз карэспандэнцкія рахункі амерыканскіх банкаў, а ўзбекскія банкі не заключылі з імі адпаведныя дамовы. Такім чынам, надзеі мясцовых прыватных прадпрымальнікаў на тое, што па картах VISA International і MasterCard, атрыманых на радзіме, можна будзе набыць тавар за мяжой, цалкам беспадстаўныя... Больш за тое, залічэнне замежнай валюты грамадзянамі Узбекістана на VISA International і MasterCard у памеры 5000 долараў і вышэй аўтаматычна робіць любога грамадзяніна аб'ектам пільнай увагі адпаведнага падраздзялення Генеральнай пракуратуры, якому даручана ўзмацніць барацьбу з незаконнымі даходамі».

Некаторыя ўжо сталі ахвярамі апісаных нязручнасцяў. Вось расповед такой ахвяры. «Я ў 2008 годзе летам прадала кватэру ў Ташкенце, паклала валюту на пластыкавую картку «Віза класік». У Ташкенце сказалі, што ў Маскве я змагу зняць гэтыя грошы ў любым банку Масквы. Па прыездзе ў Маскву хадзіла, тэлефанавала па банках — усе казалі, што з гэтым узбекскім банкам яны не працуюць. Патэлефанавала ва Узбекскае пасольства. Адмовілі і там. Зрэшты, потым знайшлі «Сіці банк», дзе праз банкамат зняла ўсе грошы, натуральна, страціўшы пры гэтым буйную суму».

Такая сітуацыя штурхае людзей у абдымкі прайдзісветаў. Ва ўзбекскім сегменце інтэрнэту можна знайсці шмат рэцэптаў, як нажыцца ў дадзенай сітуацыі. Вось вам выдатная схема заробку: «Адкрываеце рахунак, кладзяце сумы, пераводзіце іх у долары, затым адпраўляеце картку ў Расію мне (можна ў аэрапорце дамовіцца са сцюардэсай або пасажырамі). Я здымаю долары і адпраўляю іх вам ва Узбекістан па «Вестэрн Юніён»! Вы прадаяце долары па курсу чорнага рынку, кладзяце сумы на рахунак, пераводзіце зноў у долары (па дзяжкурсу). Так можна за месяц доларавым мільянерам стаць!».

З улікам апісанага не выклікаюць здзіўлення эмацыйныя пасты ўзбекскіх карыстальнікаў інтэрнэту: «Улады проста здзекуюцца, прыдумляюць новыя ідыёцкія абсурдныя нахабна-хамскія схемы, як адабраць грошы ў свайго ж народа». «Патлумачыць усе гэтыя брыдасці можна толькі адным: дзяржаве папросту выгадна, для рэгулявання афіцыйных статыстычных, эканамічных паказчыкаў, а таксама інфляцыі, вар'іраваць курсамі (афіцыйным і «чорным»). Калі патрэбныя статыстычныя дадзеныя, бярэм афіцыйны курс — і ўсе атрымлівшыя прыгожа!»

Вельмі цікава чытаць каментары тых блогераў, якія лічаць, што ўсё робіцца правільна. Такіх, зразумела, вельмі мала, што дае падставы падазраваць іх у тролінгу. Аднак дзеля поўнага малюнку трэба даць цытату: «Тое, што робіць улада, вельмі добра: 1. Валютчыкі зніклі з вуліцы, хаваюцца ці ўжо сядзяць. 2. Чорны курс рэзка падае на 50 сумаў у дзень. 3. Адкрыццё міжнароднай карткі і абмен сумаў на замежную валюту не выклікае ніякіх праблем. Сёння я цікавіўся, за 1–2 дні можна ўсё зрабіць з нуля і загрузіць на картку 2000 $. Ні чаргі, ні ажыятажу няма ў банках, усё спакойна. Гэтай карткай можна карыстацца свабодна па ўсім свеце, яна не дэкларуецца на мытні. Так што ўсё нармальна і досыць зручна, з пункту гледжання звычайнага спажыўца, а не правакатараў».

Можа, так яно і ёсць, аднак чамусьці больш вераш незалежным экспертам. Адзін з якіх піша: «Новыя правілы абароту валюты не паслужаць эканамічнаму росту і развіццю прадпрымальніцтва. Яны на руку толькі тым, хто працуе ў сістэме дзяржаўнай эканомікі і бяспекі. Дадзенае новаўвядзенне — гэта яшчэ адна схема нажывы і ўзбагачэння для пэўнага кола асоб, за што яны і выказваюць сваю лаяльнасць на адрас існуючага рэжыму».

Між тым, усе ва ўзбекскім інтэрнэце жывуць чуткамі пра тое, што ў хуткім часе таксама будзе ўведзены ліміт на пакупку безнаяўнай валюты.

ФЕНОМЕН

# ЯКОГА КОЛЕРУ ГРЫЛА?

Алег НОВІКАЎ

**У асобе італьянскага коміка Бепе Грыла, чый «Рух пяці зорак» на апошніх парламенцкіх выбарах зрабіў палітычную сенсацыю, шматлікія палітолагі разглядзелі рэінкарнацыю Беніта Мусаліні.**



Нарцыс, дэмагог, клоун, сабатажнік, анархіст і, нарэшце, новы дучэ. Такімі мянушкамі ўзнагародзілі Бепе Грыла напярэдадні дня галасавання палітычны істэблішмент і італьянская прэса. Нягледзячы на вербальныя атакі, «Рух пяці зорак» (M5S) не толькі не страціў у рэйтынгах, аднак атрымаў найбольшую фракцыю ў ніжняй палаце.

Трыумф коміка не астудзіў запал яго крытыкаў. Наадварот, у прэсе працягваецца спрэчкі наконт феномену Бепе Грыла. Адзін з самых любімых заняткаў антыгрыпістаў — шукаць і знаходзіць асацыяцыі паміж ім і фашысцкім дыктатарам Беніта Мусаліні.

На адзінства прыроды абодвух палітыкаў, на іх думку, наводзяць нават нейкія вонкавыя рэчы. Напрыклад, у прэсе ахвотна цытуюць старажылаў, якія яшчэ памятаюць часы фашызму. Па іх словах, пачуўшы на мітынгах крыкі: «Бе-пе! Бе-пе!», спачатку думалі, што вярнуліся ў маладосць, калі натоўп пры з'яўленні Мусаліні скандаваў: «Ду-чэ! Ду-чэ!». Пранырлівыя журналісты нават знайшлі, што адна з прамоў Гітлера 1935 года вельмі падобная на спіч Бепе. Абодва кажуць пра тое, што «сацыялісты нарэшце мёртвыя».

Аднак ёсць і больш сур'ёзныя прычыны падазраваць Бепе ў тым, што ён парушае аўтарскія правы Беніта. Увага звяртаецца на тое, што Берлусконі і Грыла будуць ідэалогію сваіх праектаў на нянавісці да партыйнай і парламенцкай сістэмаў.

Як кажа Бепе Грыла, «партыі і парламент — гэта не рашэнне праблемы, а частка праблемы». У тым жа духу разважаў дучэ, калі казаў: «Ісціна ў тым, што людзі стаміліся ад дэмакратыі». У якасці альтэрнатывы партыям прапануецца фармат руху. Так, Мусаліні, калі ў сакавіку 1919 года заявіў пра стварэнне арганізацыі фашыстаў, таксама ўпарта называў сваю ініцыятыву рухам. Ён казаў, што ў фашызму не можа быць статуту, а фашысцкая праграма носіць цалкам «трансцэндэнтальны характар». Палітолагі вельмі проста тлумачаць любоў папулісцкіх і аўтарытарных палітыкаў да мадэлі «руху». Такая арганізацыя не мае дактрыны, што аўтаматычна надае іх лідарам дадатковыя функцыі гуру.

Пра тое, што «Рух пяці зорак» зацыклены на адной асобе, казаць не даводзіцца Асноўныя прынцыпы і арганізацыйная інфраструктура M5S дзейнічаюць паводле дакументу «Антыстатут», які быў напісаны Грыла і адным інтэрнэтпрадпрымальнікам. Паводле «Антыстатуту», рух не мае афіснага памяшкання. Сустрэчы прыхільнікаў M5S могуць адбывацца выключна на мясцовым узроўні. Існуе толькі адзін орган, які мае права гаварыць ад імя ўсяго руху — гэта персанальны сайт Бепе Грыла. Падчас выбарчай кампаніі кандыдатам M5S было забаронена ўдзельнічаць у палітычных ток-шоў, а ў інтэрв'ю дазвалялася толькі пераказваць асноўныя пункты праграмы. Гэта тлумачылася тым, што, выступаючы перад журналістамі і палітычнымі апанентамі, можна стаць сябрам «карумпаванай эліты». Грыла — адзіны, хто мае права гаварыць з грамадскасцю, што, праўда, пасля выбараў ператварыла норму ў абсурд. Ніводны з 150 дэпутатаў, якія прайшлі па спісах руху, не мае права публічна выступаць перад СМІ.

Можна пабачыць паралелі, калі параўнаць сацыяльныя базы грылістаў і фашыстаў. І Мусаліні, і Грыла арыентуюцца на моладзь, якой і так дыскамфортна, а тым больш у часы крызісу (цяпер 35 працэнтаў італьянскай моладзі беспрацоўныя). Таму для абодвух палітыкаў характэрная агрэсіўная нігілісцкая логіка, якая знаходзіць падтрымку ў гэтай грамадскай групе. Як тут ні згадаць, што ў якасці сімвалу грылісты выкарыстоўваюць знак «V», што значыць італьянскі выраз: «Vaffa!» (аналаг вядомай англійскай лаянкі 'F.k off!'). У сваім блогу Грыла рэдуцыруе комплекс грамадскіх праблемаў да ўзроўню прымітыўных бінарных адносін грамадзяніна і ўлады, якая таго грамадзяніна ашукала і павінна быць за гэта пакараная.

Як і фашыстам, Бепе характэрныя некаторыя нацыяналістычныя забабоны — нелюбоў да Еўропы, і асабліва немцаў, лідар якіх, Ангела Меркель, быццам, нясе адказнасць за скарачэнне сацыяльнай дапамогі ў Італіі. Падчас кампаніі ў Ламбардыі касцяком яго мясцовага штабу стала група новых правых «Casopound». У пошуках апраўдання лідар M5S заявіў, што «фашызм — гэта вельмі складаная з'ява». А «Casopound», па яго словах, «эксплуатуе фальклорную спадчыну фашызму».

Брытанскі часопіс «The Spectator» у адным са сваіх артыкулаў пра феномен Бепе Грыла прагназуе такую перспектыву: «Ласкава просім у фашысцкую будучыню».

Аднак ёсць і набор аргументаў «супраць» такога параўнання. Па-першае, сярод кансультантаў і саюзнікаў Бепе шмат вядомых левых, напрыклад, эканаміст, нобелеўскі лаўрэат Ёзэф Штыгліц або драматург, лаўрэат Дарыё Фо. Апошняга, дарэчы, Бепе нават думае прапанаваць на пасаду італьянскага прэзідэнта. Сам Грыла выйшаў з антыглабалісцкага руху, што, дарэчы, ахвотна ўзгадваюць цяперашнія антыглабалісты. Так, амерыканскі ляваліберальны часопіс лічыць, што антыкарпаратыўны рух «Occupy Wall Street» у ЗША павінен шукаць спікера, падобнага да Бепе.

Па-другое, Італія не з'яўляецца манапалістам на пратэстны рух. У шматлікіх краінах Еўропы пад уплывам апатыі да парламентарызму назіраецца крызіс палітычнай рэпрэзентацыі. Больш таго, такі крызіс быў у Італіі пасля славутай антыкарупцыйнай аперацыі «Чыстыя рукі», вынікі якой дыскрэдытавалі палітычную эліту першай рэспублікі. Тады на фоне расчаравання ў старых палітыках на авансцэну і выйшаў Сільвія Берлусконі. Па сутнасці, гэта ён абкатаў і стварыў у Італіі інстытут папулізму — прывучыў людзей да новага палітычнага стылю і этасу. У цэнтры гэтай формулы — моцная персона, якая не толькі дэманструе характар, аднак і ўмее добра прамаўляць. Так што Бепе Грыла проста працягнуў справу Сільвія Берлусконі, з той, аднак, розніцай, што зрабіў стаўку не на тэлебачанне, а на інтэрнэт. Некаторыя называюць яго мадэль «віртуальным папулізмам». Кепска гэта або добра, аднак пры ўсім негатыве да фашызму не падобна.

Што тычыцца флірту з ультраправымі, дык варта згадаць яшчэ адно выслоўе Грыла. Калі на адной з сустрэч актывіст праварадыкальнага руху спытаў Бепе, ці лічыць ён сябе антыфашыстам, Бепе адказаў, што «антыфашызм не ў яго кампетэнцыі, а ўступленне сяброў M5S у антыфашысцкі рух не з'яўляецца табу, калі будзе дасягнуты кампраміс па канкрэтных пунктах праграмы». Гэта яўна жаргон не фашыста, а, хутчэй, палітычнага прагматыка.

Так што феномен Грыла наўрад ці прывядзе да новага паходу на Рым. Хутчэй, гэта будзе One-Man-Show (шоў аднаго чалавека), які да нейкага часу зможа эксплуатаваць пратэстныя настроі, не надаючы ім сістэмны выгляд. Ну а для самых песімістаў, якія баяцца адраджэння карычневай чумы, нагадаем славуты выраз Карла Маркса: «Гісторыя паўтараецца двойчы. Адзін раз у выглядзе трагедыі, а другі раз — як фарс». Прафесійны комік Бепе Грыла, хутчэй, падыходзіць для фарса.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### КРЫСЦІНА ФЕРНАНДЭС КІРШНЕР



Прэзідэнт Аргенціны арыгінальна адрэагавала на выніку рэферэндуму на Фалклендскіх (Мальвінскіх) выспах. Нагадаем, 98,8 працэнта прагаласавалі за тое, каб захаваць цяперашні статус выспаў — замежная тэрыторыя ў складзе Аб'яднанага Каралеўства. Супраць захавання статус-кво прагаласавалі ўсяго 3 асобы з прыкладна 1600. Нягледзячы на такую відавочную статыстыку, Буэнас-Айрэс вуснамі Кіршнер адмовіўся прызнаваць астравы брытанскімі. Прэзідэнт назвала рэферэндум «пародыяй» і дадала, што іншых вынікаў не магло быць, паколькі астравы акупаваныя. На думку аргенцінскіх юрыстаў, рэферэндум не падпадае пад катэгорыю акту самавызначэння, які прызнаецца міжнародным правам, паколькі ўдзельнікі галасавання, а дакладней, іх продкі, былі не абарыгенамі, а каланізатарамі. Акрамя таго, па словах аргенцінскіх палітыкаў, на архіпелагу падчас галасавання не было назіральнікаў ААН, якая, дарэчы, раней прыняла рашэнне пра тое, што адзіным выхадам з канфлікту ёсць кансенсус, а не рэферэндумы. Магчыма, баявы дух аргенцінцаў узняла заява дзяржпэпартамента ЗША, што «прызнае па факту кантроль Лондана над выспамі», аднак «не мае пазіцыі наконт іх суверэнітэту». Нягледзячы на ваяўнічую рыторыку, Аргенціна ўжо не заклікае да тэрміновай эвакуацыі брытанскай адміністрацыі з Фальклендаў, а згодная на перамовы.

### НАТАЛІ КАСЦЮШКА-МАРЫЗЭ



Наталі — французскі палітык, адзін з лідараў правацэнтрысцкай партыі «Саюз за народны рух» (UMP). Прэса дружна прызнала ў ёй французскую Маргарэт Тэтчэр пасля рашэння пачаць выбарчую кампанію за пасаду мэра Парыжа пад ультраліберальнымі лозунгамі. Так, у выпадку перамогі парыжан чакае скарачэнне падаткаў, права абіраць камісараў паліцыі, прыватызацыя муніцыпальнай маёмасці і, нарэшце, узбуйненне зоны гораду за кошт інкарпарацыі ў яе склад малых муніцыпалітэтаў. Галоўным праціўнікам Наталі будзе іншая жанчына — Ганна Ідальга (Anne Hidalgo), якая прадстаўляе Сацпартыю, што кіравала Парыжам апошні час. Ідальга заявіла, што з'яўленне мадам Касцюшка-Марызэ на палітычнай сцэне — трук правых, якім няма чаго прапанаваць, і таму яны вырашылі прыцягнуць увагу да сваёй кампаніі ў сталіцы за кошт каларытнай фігуры жанчыны-палітыка. Напрыканцы варта ўзгадаць, што Наталі паходзіць з нашага славутага роду Касцюшкаў. Яна нашчадак брата Тадэвуша Касцюшкі Язэпа, ад якога і цягнецца сямейная дрэва Касцюшкаў-Марызэ. У інтэрнэце гаворыцца, што, магчыма, заснавальнік сям'і, з якой паходзіць французская Жалезная лэдзі, папросту ваяваў у атрадзе Касцюшка, за што і атрымаў прозвішча.

### ТУРСУНБАЙ БАКІР УУЛУ



Імя гэтага дэпутат парламента Кыргызстана практычна не сыходзіць з загалоўкаў СМІ. Амаль штодня ён робіцца аўтарам нейкіх скандалаў. Спачатку збіў журналіста, які заклікаў навучаць кіргізскіх салдат рускай мове, пасля прапанаваў кіргізам адпачываць не ў нядзелю, а ў пятніцу, як прынята ў мусульманскіх краінах. Гэта ініцыятыва настолькі шакавала грамадства, што ветэранскія арганізацыі заклікалі ўстанавіць, ці не з'яўляецца Турсунбай сябрам «Аль-Каіды». Між тым, дэпутат на гэтым не спыніўся. На мінулым тыдні ён пасварыўся з вядомым гумарыстам Міхаілам Галусцянам з-за яго праграмы «Наша Раша», сярод герояў якой ёсць таксама два гастарбайтэра з Сярэдняй Азіі. Дэпутат заклікаў коміка прыпыніць здымаць ксенафобскія ролікі. Кульмінацыяй стала спрэчка нашага героя з іншым парламентарыем. Разборка закончылася тым, што Турсунбая назвалі «блакітным», за што пакрыўджаны дэпутат некалькі разоў выклікаў апанента на дуэль. Цяпер усе чакаюць новай серыі шоў. Цяжка сказаць, што за муха ўкусіла Турсунбая. У любым выпадку, імя ён сабе зрабіў.

ПАМЯЦЬ

# ТРАГЕДЫЯ БЕЛАРУСКАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ

Ігар КУЗНЯЦОЎ

**Спусташальныя войны і бальшавіцкі тэрор падарвалі нацыянальныя сілы Беларусі. Значная частка актыўных палітычных дзеячаў, што бралі ўдзел ва Усебеларускім Кангрэсе і ў стварэнні незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі, вымушана была эміграваць. У Беларусі засталіся адзінкі, да якіх далучыліся тыя, хто вярнуўся з фронту і з царскай высылкі. У гэтай сітуацыі лідары беларускага адраджэнскага руху абралі шлях доўгай, карпатлівай працы падняцця нацыянальнай свядомасці народных мас, якая і знайшла сваё ўвасабленне ў 1920-я гады ў палітыцы беларусізацыі.**

Нацыянальнае адраджэнне стала неаспрэчным фактам. Былі выхаваны нацыянальныя кадры, якія займалі пасады ў дзяржаўных і партыйных структурах. Беларусізацыя знаходзіла бясспрэчную падтрымку з боку большасці насельніцтва. Узнікалі думкі пра заваёву новых пазіцыяў. Але Сталін ужо разгортваў шырокі наступ на «ворагаў народа».

## Справа СВБ

Ужо ў 1929 годзе значная частка беларускай інтэлігенцыі была абвінавачана ў прыхільнасці да нацыянал-дэмакратызму і звольнена са сваіх пасад. Газеты, часопісы разгарнулі сапраўднае цкаванне тых, каго АДПУ ў 1930 годзе арыштавала па так званай справе «Саюза вызвалення Беларусі».

Нягледзячы на маральны ціск (а да некаторых ужываліся і фізічныя меры ўздзеяння), на папярэднім следстве поўнасцю вінаватымі прызналі сябе толькі 25 чалавек, больш за 40 поўнасцю адпрэчылі сваю віну і каля 25 прызналіся часткова. У працэсе следства 18 чалавек былі прызнаны невінаватымі і вызвалены з турмы.

Па сфальсіфікаванай справе СВБ 90 прадстаўнікоў інтэлігенцыі (з іх 89 беларусаў і 1 рускі) атрымалі розныя тэрміны зняволення. На расстрэльныя прысуды сістэма яшчэ не рашылася. Як сведчаць архіўныя дакументы, улада яшчэ баялася актыўных пратэстаў. І трэба аддаць належнае: мінская інтэлігенцыя, што таксама зафіксавана ў дакументах, выказвала пратэст.

## Нацыянальная эліта

Са справай СВБ звязана трагічная смерць лідара беларускіх нацыянальных дзеячаў, акадэміка, прафесара Усевалада Ігнатоўскага, якога чэкісты спрабавалі зрабіць кіраўніком СВБ. Пасля аднаго з выклікаў на допыт у ДПУ Ігнатоўскі застрэліўся на сваёй кватэры. На гэтую ж ролю кіраўніка СВБ меркавалі і Янку Купалу. Свой пратэст супраць кампаніі расправы з нацыянальнымі кадрамі паэт выявіў спробай самагубства.

Яшчэ адным знакавым ударам, які АДПУ нанёс па нацыянальных кадрах, быў арышт наркамзема БССР Дзмітрыя Прышчэпава. Ён быў абвешчаны абаронцам кулакоў, арганізатарам варожай сацыялістычнаму землекарыстанню палітыкі насаджэння хутароў. У афіцыйных дакументах і прапагандзе дзейнасць Прышчэпава зняважліва называлася «прышчэпаўшчынай». Аднак сярод беларускага сялянства яго дзейнасць пакінула глыбокі след і добрую памяць.

У першай палове 1930 года ў Мінску былі арыштаваныя вядомыя культурныя беларускія дзеячы Акадэміі навук, універсітэта, Наркамасветы і часткова Наркамзема. Сярод іх — папулярны мовазнаўца, акадэмік Язэп Лёсік, вядомы беларускі географ, акадэмік Аркадзь Смоліч, сакратар Беларускай Акадэміі навук, акадэмік Вацлаў Ластоўскі, рэктар універсітэта прафесар Уладзімір Пічэта, намеснік наркамзема Прышчэпава Алесь Адамовіч, прафесар гісторыі Мітрафан Доўнар-Запольскі, прафесар Максім Гарэцкі...

Характэрнай рысай арыштаў 1930 і 1931 гадоў было тое, што нязначнай часткі арыштаваных у якасці пакарання была прызначана вольная высылка. На той час яшчэ не збудавалі дастатковай колькасці канцэнтрацыйных лагераў, таму і высылалі на вольнае пасяленне. Аднак гэта не была высылка з мяккім рэжымам.

Для зручнасці назірання за высланымі ДПУ звычайна канцэнтравала іх у маланаселеных паселішчах паўночных губерняў, дзе яны не маглі знайсці працу, каб зарабіць на харчаванне. Таму значная частка высланых была асуджана на галоднае выміранне.

| АНТЫСАВЕЦКІЯ ПАЛІТЫЧНЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ І ПАРТЫІ, СТВОРАНЫЯ АДПУ-НКУС БССР У 1920–1930-Х ГАДАХ | |
|---|---|
| **Назва арганізацыі, партыі** | **Перыяд дзеяння** |
| Саюз вызвалення Беларусі | 1923–1930 |
| Беларускі філіял меншавікоў | 1928–1931 |
| Беларускі філіял Прампартыі | 1926–1931 |
| Беларускі філіял Працоўнай сялянскай партыі | 1924–1931 |
| Партыя вызвалення сялян | 1930–1933 |
| Беларуская Народная Грамада | 1920–1933 |
| Беларускі Нацыянальны Цэнтр | 1932–1933 |
| Народны саюз здаровай Радзімы (Сялянская партыя) | 1933 |
| Беларуска-літоўская сялянская партыя | 1933 |
| Руская партыя фашыстаў | 1934 – студзень 1935 |
| Нацыянал-фашысцкая тэрарыстычная шпіёнска-дыверсійная арганізацыя | 1925–1936 |
| Аб'яднанае антысавецкае падполле:<br>— арганізацыя правых<br>— бундаўска-сіяністкія арганізацыі<br>— нацыянал-фашысцкая арганізацыя<br>— трацкісцка-тэрарыстычная арганізацыя<br>— эсэраўская арганізацыя | 1933–1937 |

## Масавы тэрор

Справа СВБ з'яўлялася першай масавай хваляй тэрору супраць беларускай інтэлігенцыі. У маі 1931 года АДПУ сфальсіфікавала справу Працоўнай сялянскай партыі, па якой асуджана на розныя тэрміны зняволення і высылкі 59 чалавек, па беларускаму філіялу Прампартыі пастановай калегіі АДПУ Беларусі ад 12 верасня 1931 года рэпрэсавана 30 чалавек.

У 1931–1932 гадах пракацілася хваля арыштаў сярод працаўнікоў сельскай гаспадаркі. Былі сфальсіфікаваны справы «Беларускага філіяла Працоўнай сялянскай партыі», «Белтрактарацэнтра», «Ветэрынарных урачоў». Толькі па іх было арыштавана і асуджана звыш 800 чалавек.

Але самыя масавыя арышты былі праведзены па так званай «справе Белтрактарацэнтра» — 546 чалавек. Па сутнасці былі амаль цалкам знішчаны кваліфікаваныя кадры, якія працавалі ў цэнтральных кіруючых органах сельскай гаспадаркі і на месцах, бо адначасова ішло выкрыццё «ворагаў народа» па раёнах.

У верасні 1932 года АДПУ БССР ліквідавала ў Мазырскім раёне так званую контррэвалюцыйную арганізацыю «Сялянскіх саюзаў», у кіруючы цэнтр якой чэкісты запісалі спецыялістаў з ліку дарэвалюцыйнай інтэлігенцыі. Па гэтай справе толькі ў адным раёне праходзілі звыш 70 чалавек.

У жніўні 1933 года Паўнамоцнае Прадстаўніцтва АДПУ па БССР адрапартавала аб «выкрыцці» «шырокаразгалінаванай контррэвалюцыйнай паўстанцкай і шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі «Беларускі нацыянальны цэнтр» і яе філіялаў у Горках і Беразіне». Гэтая 55-томная справа сфальсіфікавана з вялікім размахам і шырокай геаграфіяй ахопу, якая распаўсюджвалася на «значную частку тэрыторыі Беларускай ССР з філіяламі ў гарадах Маскве і Ленінградзе».

**З абвінаваўчага заключэння:**

*«…Основными кадрами организации являлись перебежчики из Польши. Социальной же базой контрреволюционной организации БНЦ являлось кулачество, антисоветски настроенная интеллигенция, бывшие офицеры, служащие в государственных учреждениях, выходцы из социально-чуждых прослоек».*

Па справе БНЦ у якасці абвінавачваемых прыцягнуты да адказнасці 97 чалавек. 26 з іх па рашэнню судовай Калегіі АДПУ ад 9 студзеня 1934 года былі прыгавораны да вышэйшай меры пакарання, 16 — да вышэйшай меры пакарання з заменай на 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў (усе паўторна асуджаныя і расстраляныя ў 1937 годзе), 17 — да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў (ППЛ), 5 — да 8 гадоў ППЛ, а астатнія — да розных мер пакарання.

## «Абняславіць і скампраметаваць»

Звычайна ДПУ ў сваёй друкарні выдавала тэндэнцыйна падабраныя вытрымкі з «паказанняў» арыштаваных, здабытыя гвалтоўным шляхам. У выглядзе спецыяльнай брашуры, пад грыфам «сакрэтна», гэты матэрыял перадаваўся для азнаямлення адказным камуністам.

Партыйныя газеты, часопісы і спецыяльныя выкрывальныя «працы» спасылаліся на вытрымкі з паказанняў, не называючы крыніцы. Сакратарам і членам бюро ЦК дазвалялася карыстацца гэтымі вытрымкамі ў сваіх выступленнях дзе-небудзь на сходах партыйнага актыву.

Задачай прапаганды было паказаць нацыянальны рух у Беларусі як контррэвалюцыйную, шкодніцкую, шпіёнскую працу беларускіх нацыяналістаў, скіраваную на адлучэнне БССР ад Савецкага Саюза, на стварэнне буржуазнай нацыянальна-дэмакратычнай рэспублікі. Абняславіць арыштаваных, скампраметаваць нацыянальных лідараў, выставіць іх у самым агідным выглядзе, прычым не толькі ў грамадскай працы, але і ў прыватным жыцці. Нацыянальны рух зневажальна ахрысцілі «нацдэмаўшчынай», а яго ўдзельнікаў — «нацдэмамі».

Па заданні сакратара ЦК камуністычнай партыі Гея ў Акадэміі навук былі створаныя «брыгады», якія старанна вышуквалі ў друкаваных працах, у стэнаграмах дакладаў і выступленняў элементы нацдэмаўшчыны. Рэвізавалася паэзія, проза, публіцыстыка западозраных у «нацдэмаўшчыне» пісьменнікаў.

Большасць падручнікаў былі зняты з ужытку, асабліва хрэстаматыі для чытання, граматыкі, зборнікі дыктовак. Адны — з прычыны арышту іх аўтараў, незалежна ад зместу, іншыя — з-за неадпаведнасці «лініі партыі».

У хрэстаматыях для чытання не дазвалялася ўзгадваць аднаасобныя гаспадаркі, у задачніках — выкарыстоўваць прыклады з іх жыцця. Настаўнікі павінны былі самі выдумляць арыфметычныя практыкаванні з жыцця калгасаў, гандлю кааператыўных крамаў.

З бібліятэк і чытальняў вымаліся ўсе працы арыштаваных — па гісторыі, этнаграфіі, геаграфіі, літаратуры, мастацтве, краязнаўстве, творы паэтаў і празаікаў, навуковыя даследаванні спецыялістаў — «шкодны нацдэмаўскі хлам».

Кожны савецкі грамадзянін, асабліва калі ён меў справу з кнігай, лічыў сябе кандыдатам на арышт. Кожны інтэлігент старанна сачыў, каб своечасова знішчыць кнігі, газеты, фотаздымкі, карціны тых, хто быў арыштаваны.

Усе арышты абавязкова суправаджаліся вобшукамі, падчас якіх забіраліся фотаздымкі нават даўно памерлых, прыватнае ліставанне, дакументы і кнігі раней арыштаваных аўтараў. Потым у ДПУ ўсё гэта сартавалася, фармавалася ў матэрыял для абвінавачвання.

У кнігарнях перасталі выстаўляць кнігі нават тых беларускіх пісьменнікаў, што яшчэ заставаліся на свабодзе, з-за асцярогі не паспець ад іх пазбавіцца, калі аўтараў арыштуюць. Зніклі плакаты з беларускім арнаментам, што віселі ў клубах, чытальнях, фае тэатраў і кіно. Кіраўнікі розных рангаў паспешліва перафарбавалі свае службовыя кабінеты, якія ў свой час таксама без патрэбы былі распісаныя беларускім арнаментам і эмблемамі.

У Мінску ў Акадэміі навук былі створаны спецыяльныя брыгады па выяўленні нацыянальна-дэмакратычных ухілаў у друкаваных працах перыяду НЭПа. Выяўленыя «ўхілы» старанна вывучаліся, сістэматызаваліся, аздабляліся «правільнымі» навуковымі высновамі, а затым друкаваліся ў якасці прац абноўленай сацыялістычнай Акадэміі навук.

| МАСАВЫЯ РЭПРЭСІІ Ў БЕЛАРУСІ (1918–1953) | | |
|---|---|---|
| **Перыяды** | **Катэгорыі рэпрэсаваных** | **Прыкладная колькасць рэпрэсаваных (тыс.чал.)** |
| 1918–1920 | Прадстаўнікі «непралетарскіх класаў» | не менш 30 |
| 1929–1932 | Сялянства | 420–500 |
| 1933–1934 | Нацыянальная інтэлігенцыя | не менш 20 |
| 1934–1936 | Нацыянальная інтэлігенцыя, прадстаўнікі «непралетарскіх класаў» | 48–50 |
| 1937–1938 | Наменклатура, усе катэгорыі насельніцтва | 550–600 |
| 1939–1941 | Насельніцтва Заходняй Беларусі | 240–300 |
| 1941–1944 | Жыхары часова акупаванай тэрыторыі | не менш 50 |
| 1945–1953 | Жыхары часова акупаванай тэрыторыі, інтэлігенцыя | 72–75 |
| 1918–1953 | Агульная колькасць рэпрэсаваных | 1430–1625 |

ВУСНАЯ ГІСТОРЫЯ

# НЕШАБЛОННЫ ЎСПАМІН ПРА ЗАХОДНЮЮ БЕЛАРУСЬ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У шматлікіх працах беларускіх гісторыкаў жыццё ў заходнебеларускіх ваяводствах II Рэчы Паспалітай у 1930-х гадах характарызуецца ў асноўным з дапамогай адмоўных эпітэтаў. Маўляў, беларусаў тады ўціскалі, паланізавалі, прыгняталі, за людзей не лічылі.**


Генерал Уладзіслаў Бартноўскі з прэзідэнтам Масціцкім


Генерал Уладзіслаў Бартноўскі

Я далёкі ад таго, каб ідэалізаваць «санацыйны рэжым» Пілсудскага і палітыку адміністрацыі міжваеннай Польшчы ў адносінах да нацыянальных меншасцяў. Але ўсё ж варта разумець, што жыццё ў дзвюх частках Беларусі ў 30-х гадах XX стагоддзя адрознівалася карэнным чынам. У гэтым артыкуле я прывяду вытрымкі са сваёй гутаркі з жанчынай, якая жыла «за панскім часам». Думаю, што яе ўспаміны пра тыя гады заслугоўваюць асаблівай увагі.

З жыхаркай вёскі Дзягелі Мядзельскага раёна Мінскай вобласці Марыяй Іосіфаўнай мне ўдалося сустрэцца дзякуючы маім сваякам. Бабульцы тады было крыху за 90 гадоў, зрэшты, яе яснай памяці мог пазайздросціць любы дваццацігадовы хлопец ці дзяўчына. «Ой, дзетачка, ты ж маё прозвішча не называй, не хачу я, а то што не так скажу», — па-старому асцерагаецца бабуля.

Нарадзілася яна ў «панскай» Польшчы ў сям'і беларускага селяніна. Жылі не багата, але з працягнутай рукой не хадзілі. Зямлі было 4 гектара, карова, свінні, сад і агарод. У выніку траўмы бацька стаў інвалідам, а маці за яго атрымлівала пенсію, што плаціў польскі ўрад. Марыя хадзіла ў школу, новы будынак якой паставілі ў 1930-х гадах. «Сямігодка» знаходзілася ў вёсцы Слабада. Па ўспамінах маёй суразмоўцы, будынак школы быў вялікім, прыгожым, светлым. Усяго ў ім вучылася 250 дзяцей, а настаўнікаў было толькі чацвёра. Але затое сапраўдныя прафесіяналы. На іх занятках было вельмі цікава і пазнавальна. У школе разам вучыліся і палякі, і беларусы. Бабуля ўспамінае, што з ёй за партай сядзеў сын польскага паліцыянта, з якім яна вельмі добра ладзіла. Паміж сабой размаўлялі то па-польску, то «па-тутэйшаму», г. зн. па-беларуску. І кожны ўсё разумеў.

«Сёння часта лаюць палякаў і панскія часы, а я скажу так. Калі сям'я была беднай або малазабяспечанай, то польскія ўлады плацілі матэрыяльную дапамогу з улікам таго, каб бацькі маглі пракарміць кожнае дзіця. У нас у сям'і было трое дзяцей, мама атрымлівала дапамогу з улікам куплі харчавання для кожнага з нас. Вось як было», — кажа Марыя Іосіфаўна.

На той час у вёсцы Марыі Іосіфаўны палякі жылі побач з беларусамі. Мясцовыя сяляне працавалі на пана, які аплачваў гэтую працу. Прыязджаў кіраўнік наймаць рабочую сілу на «жніво», і людзі ішлі, таму што ведалі, што гэты пан і заплаціць, і карміць будзе нядрэнна. Каму не хапала зямлі, ехалі на заробкі ў Прыбалтыку. Многія ехалі ў Латвію і Эстонію, бо выязджаць можна было свабодна. Нагадаю, што ў гэты час сяляне ў БССР ужо жылі за «жалезнай заслонай».

У вёсцы былі касцёл і царква. Польскія ўлады не ўціскалі праваслаўных, а ксяндза і бацюшку часта можна было бачыць разам, як яны ішлі па вуліцы. Праваслаўных вучняў-беларусаў у царкву вадзіла настаўніца, дарэчы, каталічка па веравызнанні. Амаль кожны тыдзень у школу прыязджаў бацюшка і праводзіў заняткі па рэлігіі. Да каталікоў, у сваю чаргу, прыязджаў ксёндз. Калі было якое праваслаўнае свята, беларускім дзеткам дазвалялі не прыходзіць у школу. Як жа можна ў святочны дзень працаваць?

У заходнебеларускіх ваяводствах II Рэчы Паспалітай была распаўсюджана хутарная сістэма. Прыязджаў каморнік і рабіў разметку зямлі. Так кожная гаспадарка атрымлівала сваю палоску зямлі. Некаторыя сяляне пераносілі сваё жыллё бліжэй да вылучаных зямельных надзелаў.

Войтам Мядзельскай гміны быў Альфрэд Вайцяхоўскі. «Памятаю, заўсёды нас на брычцы падвозіў у школу. Ідзем мы па дарозе, а войт з фурманам едзе. Браў нас, колькі было на дарозе, садзіў поўную «фурманку» дзятвы і вёз у школу. Дарэчы, у будынку гміны быў адзін на раён тэлефон. Дзяцей са школы вадзілі на экскурсію туды, і сакратар, пан Мачульскі, даваў школьнікам паслухаць гэты дзіўны апарат. А потым, як цяпер памятаю, паілі нас кавай з булачкамі», — распавядае мая суразмоўца.

Побач з вёскай, дзе жыла Марыя Іосіфаўна, знаходзіўся фальварак Кавалькі, які належаў брыгаднаму генералу польскай арміі Уладзіславу Бартноўскаму. Увосень 1938 года менавіта гэты высокапастаўлены афіцэр камандаваў аперацыяй па далучэнні Цешынскай вобласці да Польшчы. Зараз па-рознаму ацэньваюць гэтую падзею, аднак напэўна вядома, што ўдзел у ёй зрабіў генерала настолькі папулярным, што ён пасля прэзідэнцкіх выбараў 1940 года павінен быў замяніць маршала Э. Рыдз-Сміглы (які збіраўся балатавацца на прэзідэнта) на пасадзе галоўнакамандуючага Войскам Польскім. «Памятаю, як генерал прылятаў на вайсковым самалёце. У фальварку было многа прыслугі. Усе бегалі, мітусіліся. Часта прыязджала і генеральская жонка. Яна любіла катацца на ровары па ваколіцах», — успамінае пажылая жанчына.

...17 верасня 1939-га разам з іншымі дзецьмі Марыя, як звычайна, ішла ў школу. І раптам убачыла салдат. Іх форма адрознівалася ад той, у якой хадзілі палякі, а на фуражках былі вялікія чырвоныя зоркі. «Дзеці, а дзе тут памешчыкі жывуць? Пакажыце нам», — звярнуўся да школьнікаў адзін з салдат. «А мы і слова такога не ведалі — «памешчык». Не разумелі, чаго гэтыя людзі ад нас хочуць», — кажа бабуля.

Прыйшоўшы ў школу, дзеці ўбачылі настаўніцу, якая плакала. Мужа жанчыны, дырэктара, толькі што забралі салдаты. На вачах спалоханых дзяцей тыя ж людзі з прымкнёнымі да вінтовак штыкамі, якія шукалі памешчыкаў, вывелі са школы іншых настаўнікаў і павялі па гасцінцы ў невядомым кірунку. З арыштаванымі мужчынамі пайшла і жонка дырэктара. Яна была пасля родаў, незадоўга да пачатку Другой сусветнай вайны ў жанчыны нарадзіўся сын. Войта таксама арыштавалі. Праўда, Альфрэду Вайцяхоўскаму, у нейкім сэнсе, пашанцавала. Яго выслалі ў Казахстанскую ССР, а ў 1941 годзе пасля дамовы Сікорскі-Майскі былы мядзельскі войт уступіў у армію генерала Андэрса і ваяваў супраць нацыстаў на Захадзе. Пасля вайны гэты чалавек вярнуўся ў Польшчу.

НКУС арыштавала і мясцовага лесніка. За што? А быў прадстаўніком, як цяпер прынята казаць, польскай «вертыкалі ўлады». Усю сям'ю гэтага чалавека ў 1940 годзе адправілі ў Сібір. «Як хто быў заможным, меў крыху больш, чым у іншых, так яго адразу і запісвалі ў ворагі», — распавядае Марыя Іосіфаўна. Яшчэ ўчора мірная вёска раптам раскалолася на «сваіх» і «чужых». Савецкія актывісты складалі спісы «нядобранадзейных» і «ворагаў народа». Часта пры складанні такіх дакументаў нядобрасумленныя людзі кіраваліся банальнай зайздрасцю да больш паспяховага і працаздольнага суседа. Людзей сталі гвалтоўна перасяляць з хутароў. «У нас было няшмат зямлі, але тое, што мелі, было нашым. А потым усё раптам стала агульным. І ва ўсіх зямлю пазабіралі. Вось так я памятаю тыя няпростыя гады», — заканчвае сваё апавяданне мая суразмоўца.

Добра было б, каб гэтыя ўспаміны прачыталі тыя, хто жыве савецкімі ілюзіямі пра «паноў, якія рабавалі беларускіх сялян», і пра «міратворчы характар» «вызваленчага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь». Безумоўна, у верасні 1939 года Беларусь аб'ядналася, але саветызацыя Заходняй Беларусі, якая рушыла за гэтым, нанесла рэгіёну і яго жыхарам значны ўрон. Гістарычныя і культурныя каштоўнасці, ацалелыя «пры панах», былі бязлітасна разрабаваны бальшавікамі, а многіх людзей рэпрэсавалі.


Жыхары Заходняй Беларусі. Маладзечанскі павет


Будынак школы ў Заходняй Беларусі

▸ РЭЦЭНЗІЯ

# ГЛЯДЗЕЦЬ У ЗАЎТРА — І НЕ БАЯЦЦА

У лютым «Новы час» абвясціў конкурс «Народная рэцэнзія», мэтай якога было атрымаць як мага болей чытацкіх водгукаў на кнігі, што трапілі ў шорт-ліст Літаратурнай прэміі Ежы Гедройца. На жаль, канстатуем: народнага конкурсу не атрымалася. Замест гэтага мы атрымалі дзве рэцэнзіі ад прафесійных літаратурных крытыкаў. Адну з іх, напісаную аўтарам з Брэста і прысвечаную кнізе «Шал» Юрыя Станкевіча, творы якога традыцыйна выклікаюць самыя гарачыя спрэчкі, прапануем вашай увазе.

Сяргей ГРЫШКЕВІЧ

З Юрыем Станкевічам заўсёды няпроста. Асабліва несумленным, прымітыўна-недальнабачным, паліткарэктным і зайздрослівым людзям, гатовым у любы момант прадаць каго і што заўгодна, у тым ліку і ўласную Радзіму.

Гэтага пісьменніка можна не прымаць, бясконца абзываючы цынікам-чарнушнікам, песняром нацы і літаратурным Брэйвікам, але яму нельга адмовіць у балюча-страсным перажыванні за сваю зямлю і свой народ, да якога гісторыя ніколі не была літасцівай, а тым больш перспектыўнай. Гэта ў чарговы раз пацвердзіла новая кніга аўтара «Шал», што летась пабачыла свет у сталічным выдавецтве «Галіяфы».

На жаль, многія сённяшнія даследчыкі нацыянальнай літаратуры пакуль не дараслі да ўспрымання-разумення надзвычай вострапраблемнай і актуальнай прозы гэтага адметнага аўтара. Замест грунтоўнага прачытання/асэнсавання большасць абмяжоўваецца павярхоўнымі заўвагамі дылетанцка-эмацыянальнага кшталту. Увагі заслугоўваюць, бадай, толькі артыкулы Д. Бугаёва і Ю. Сальнікавай, якія адразу заўважылі ў творчасці Ю. Станкевіча заклапочаны позірк, скіраваны ў будучыню ўсяго чалавецтва.

У пастаноўцы і мастацкім вырашэнні глабальных пытанняў пісьменнік апярэджвае агульнае развіццё сучаснай беларускай літаратуры, з-за чаго займае ў ёй асобнае, канкрэтна не вызначанае месца. Адсюль і частае неразуменне, непрыманне ягонай творчасці, якая папярэджвае насельнікаў планеты ад далейшага няправільнага жыцця, спрошчана да жывёльных інстынктаў.

Гэты аўтар валодае выразнай грамадзянскай пазіцыяй, незалежнай ад хуткаплыннай кан'юнктуры часу, чым, на жаль, могуць пахваліцца не ўсе сучасныя творцы. Нельга папракнуць Ю. Станкевіча і ў ахоўным прыстасавальніцтве да знешніх абставін, якімі б жорсткімі яны ні былі.

Мастацкія прыёмы пісьменніка пазбаўлены паліткарэктнасці, а погляд на чалавека далёкі ад веры ў ягоны розум і ўяўныя звышмагчымасці. Менавіта падобным успрыманнем непрычасанай рэчаіснасці гэты пісьменнік бачыцца літаратадоксам сацыяльна нявыгадным і нават шкодным, гэткім антыгуманістам, што бязлітасна руйнуе пяром зманлівыя ідэалы віртуальна-ружовай будучыні. Аднак Ю. Станкевіч у сваёй мадэлі свету паслядоўны і бескампрамісны да банальнага, бо грунтуе яе на звычайных прынцыпах чалавечай маралі і годнасці, вымяраючы імі вартасць кожнага з нас.



Гэты пісьменнік увайшоў у літаратуру даволі позна, але з ужо сфармаваным светапоглядам і яснай творчай канцэпцыяй, якая дакладна адлюстравана амаль у кожным апавяданні, аповесці, рамане. У іх няма лакальнага прымітывізму, яны выходзяць за межы традыцыйна-вясковай бытавухі і скіраваны на глабальныя праблемы сучаснага грамадства, чым і прыцягальныя.

Паміж першай і апошняй па часе выхаду кнігамі Ю. Станкевіча — больш за 20 гадоў. Для творчай біяграфіі гэта няшмат. Іншыя і за 50 гадоў літаратурнай дзейнасці так і застаюцца на ўзроўні даэвалюцыйнага развіцця. Дарога ад «Лупа» (1989) і «Анёлаў на бальшаку» (1993) да «Апладнення ёлупа» (2005), «Мільярда ўдараў» (2008), «П'яўкі» (2010) і «Шалу» (2012) была пазначана нястомнымі пошукамі свайго месца ў свеце і ідэнтыфікацыяй сябе як асобы. Паміж гэтымі кнігамі стаяць не менш важныя — «Любіць ноч — права пацукоў» (2000), «Армагедон — 1895» (2000) і «Сатырыкон» (2003). Першая з іх фактычна абумовіла ідэйны настрой далейшай прозы пісьменніка.

Так, магістральны раман «Любіць ноч — права пацукоў» знайшоў своеасаблівы працяг у антыўтопіях «Эрынії» і «П'яўка», якія не маюць аналагаў у айчыннай літаратуры. Лічу, што ні за адну сваю кнігу гэтаму таленавітаму пісьменніку не павінна быць сорамна. Безумоўна, у мастацкіх адносінах творы аўтара (асабліва апавяданні) не заўсёды раўназначныя, але і назваць іх прахаднымі ўсё ж не даводзіцца. Кожная наступная кніга ўдакладняе і дапаўняе папярэднюю, сведчыць пра пастаянны рух мастацкай свядомасці і абвостранае адчуванне трывожнага пульсу часу.

У большасці твораў Ю. Станкевіч не пакідае ніякіх шансаў чалавеку на выратаванне. Але гэта заканамерна: духоўныя спусташэнцы і звыродлівыя псеўдапатрыёты гістарычнай будучыні не маюць. Нягледзячы на неспрыяльныя жыццёвыя абставіны і няспынныя паразы лёсу, персанажы пісьменніка да апошняга трымаюць абарону ўласных прынцыпаў, без чаго не пачуваюць сябе паўнавартаснымі прадстаўнікамі чалавечага роду ў цэлым і сваёй нацыі ў прыватнасці (аповесці «Лавец святла поўні», «Партрэт выпускніка на фоне «адлігі», «Пераход»). Нават у фантастычных творах, дзе аўтар, грунтуючыся на навуковых даследаваннях, сцвярджае, што наш сусвет — усяго толькі дэкарацыя, гучыць голас у абарону чалавечага ў чалавеку, адчуваецца надзея на перамогу дабра і справядлівасці, праўды і маралі, натуральнай логікі прыроды... Пісьменнік вядзе непрымірымую барацьбу з псеўдай (знешняй і ўнутранай), ілжыва-падманнымі дэкарацыямі гістарычнага, у тым ліку і сучаснага, нацыянальнага шляху, паколькі ў іх чалавек паступова страчвае пачуццё рэальнасці і самасці, ператвараючыся ў паслухмяную ляльку зусім не звышнатуральных сіл.

У творчым багажы пісьменніка шмат адметных апавяданняў, у якіх даследуюцца сутнасць фізічных магчымасцей чалавека, межы яго падзення, а таксама прырода страху, псіхалагічных адхіленняў, грамадскіх катаклізмаў і экстрэмальных будняў, дзе пастаянна даводзіцца адстойваць права на жыццё, нават з незайздросным фіналам. Да ліку лепшых твораў малой жанравай формы варта аднесці такія апавяданні, як «Пакупнік сноў», «Мёртвая кропка», «Мільярд удараў», «Цацка ад творцы», «Прытча пра жука-чарнацёлку», «Яйка зязюлі павінна быць выседжана» і інш.

Ю. Станкевіч не баіцца глядзець ні ва ўнутраны свет чалавека, які не ў стане адшукаць паратунак ад самога сябе, ні наперад, у аддаленую перспектыву, якая, дзякуючы недасканалай людской натуры, не абяцае нічога прыемнага. Абстрагаючы жыццёвыя канфлікты, пісьменнік абвастрае наша разуменне навакольнай рэчаіснасці, наканаванага і непазбежнага, чаму, хоць і бессэнсоўна супрацьстаяць, але неабходна — дзеля годнага апраўдання сваёй часовай зямной прысутнасці. Таму давайце разам з гэтым цікавым аўтарам смела глядзець у заўтра, якое з'яўляецца праекцыяй кожнага з нас, ствральнікаў штучных багоў і дэкарацый.

▸ ФЕСТЫВАЛЬ

# «ШЭНГЕНКА» КРОЧЫЦЬ ПА КРАІНЕ

Алесь ПЛОТКА

**У сталічнай галерэі «Ў» адбылося ўрачыстае адкрыццё «Шэнгенкі» — фестывалю сярэднееўрапейскай літаратуры, арганізатарамі якога з'яўляюцца культурніцкая кампанія «Будзьма беларусамі!» і «Лабараторыя навуковага і мастацкага перакладу».**

Першай імпрэзай фестывалю зрабілася «Мультыкультурная віза», прысвечаная феномену сучаснай сярэднееўрапейскай літаратуры і яе перакладчыкам. Звычайна перакладчык указваецца маленькімі літарамі, яго імя пішацца ў канцы кнігі і застаецца нікому не вядомым. Гэта вечарына, як і наступныя імпрэзы «Шэнгенкі», маюць на мэце выправіць такую недарэчнасць.

На адкрыцці фестывалю Алена Макоўская, каардынатар кампаніі «Будзьма беларусамі!», адзначыла: «Перакладчыкі падчас літаратурных мерапрыемстваў заўжды заставаліся людзьмі другога плану. Наш фестываль заклікаsuccessful выправіць гэту сітуацыю. Падчас мерапрыемстваў фестывалю мы будзем знаёміцца не толькі з творамі зорак літаратуры і філасофскай думкі сярэдняй Еўропы, але і з людзьмі, якія зрабілі для нас гэтыя творы дасяжнымі. Прыемна канстатаваць, што ў Беларусі стварыўся грамадскі інстытут перакладу замежнай літаратуры. Дзякуючы намаганням ПЭН-Цэнтра, Лабараторыі навуковага і мастацкага перакладу, Саюза беларускіх пісьменнікаў і часопіса «ПрайдзіСвет», да мастацкага і навуковага перакладу далучаецца ўсё больш маладых, апантаных і таленавітых людзей. І гэта ёсць агульным грамадскім здабыткам, з чым я нас усіх і віншую».

«Мультыкультурная віза» дапамагла наведнікам вечарыны прасякнуцца сярэднееўрапейскай літаратурай напоўніцу — харызматычныя акцёры Павел Харланчук і Ганна Хітрык увасобілі вобразы літаратурных герояў і творча падышлі да прачытання вершаў.

Удзельнікамі гутаркі з Андрэем Хадановічам у гэты вечар былі Марына Казлоўская, якая пераклала на беларускую мову зборнік вершаў «Без» польскага паэта Тадэвуша Ружэвіча, і замежны госць — славацкі паэт і выдавец Петэр Мілчак, які разумеў пытанні вядоўцы, не чакаючы перакладу. Былі прэзентаваныя пераклады кніг славацкіх аўтараў — «Культура як стасункі» празаіка, публіцыста і эсэіста Дамініка Татаркі, а таксама раман Рудольфа Слободы «Розум». Марыя Пушкіна расказала пра працу над перакладам падарожнай эсэістыкі польскага аўтара Анджэя Стасюка «На шляху ў Бабадаг».

Лагічным фінішам імпрэзы зрабіўся выступ перакладчыка Алеся Карцеля, які расказаў пра падрабязнасці працы над перакладам кнігі венгра Петэра Надаша «Канец аднаго сямейнага рамана». Петэр Надаш быў далёка не апошнім аўтарам у спісе намінантаў на Нобелеўскую прэмію. У сувязі з гэтым Андрэй Хадановіч трапна зазначыў, што цяпер варта набыць кнігу, каб у выпадку чаго можна было пахваліцца: «Я прачытаў кнігу па-беларуску яшчэ да таго, як пісьменнік зрабіўся набелістам!»

Наступныя імпрэзы:

15.03 Філасофская сустрэча «Наш вясёлы апакаліпсіс».

20.03 Сацыялагічна-палітлагічная сустрэча «Паўстанне Еўропы».

26.03 Літаратурная вечарына «Пражская вясна ў Мінску».

**29.03** Мемуар-вечарынка.




Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 305

Падпісана да друку 15.03.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

(**S**) — матэрыял падрыхтаваны пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Польшча